● выдаецца са жніўня 1917 г.  БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА  ● кошт 3000 рублёў

17 лістапада 1998 г. аўторак, № 223 (23574)



# ЗВЯЗДА

## У СТАЛІЦЫ АДБЫЎСЯ ПАЖАР НА ЦЭЦ-3, ЯКІ МЕЎ ДРУГУЮ КАТЭГОРЫЮ СКЛАДАНАСЦІ

***У канцы мінулага тыдня тысячы кватэр мінчан, якія пражываюць у Заводскім і Партызанскім раёнах сталіцы, на доўгі час засталіся без святла. Не працавалі ўвечары магазіны, аптэкі, іншыя ўстановы, не было вулічнага асвятлення. Усю гэтую частку горада паглынула цемра, якую, вядома, не магло разагнаць полымя рэдкіх свечак у кватэрах людзей.***

Прычынай таму стала надзвычайнае здарэнне на ЦЭЦ-3, якая забяспечвае гэтыя раёны электраэнергіяй. У чацвер у 12 гадзін 53 хвіліны ў цэнтр аператыўнага ўпраўлення пажарнай службы Мінска паступіла інфармацыя аб узнікненні тут пазаштатнай сітуацыі: на галоўным шчыце кіравання цеплаэлектрацэнтралі № 3 спрацавала аўтаматычная пажарная сігналізацыя.

Пажару быў прысвоены другі павышаны нумар выкліку (усяго іх у нас тры нумары, чым большая лічба — тым большыя маштабы і небяспека пажару). Да моманту прыбыцця першых пажарных падраздзяленняў было ўстаноўлена, што ў гэтым кабельным адсеку пракладзены кантрольныя і сілавыя электрычныя кабелі, якія сілкуюць аўтаматыку тэхналагічнага абсталявання і электраспажыўцоў на аб'ектах і жыллі часткі сталіцы. Для таго, каб дапусціць пажарных да ліквідацыі надзвычайнага здарэння, дзяжурны персанал ЦЭЦ-3 пачаў адключаць электраэнергію на ўчастку, дзе ўзнік пажар. У гэты час з люкаў кабельных каналаў пайшоў чорны дым. Адзін за другім пачалі адключацца паветраныя выключальнікі размеркавальных прыстасаванняў, якія суправаджаліся магутнымі хлапкамі, якія можна было пачуць за некалькі кіламетраў ад ЦЭЦ. Кіраўніцтва работамі па ліквідацыі пажару ўзяў на сябе начальнік Мінскага гарнізона пажарнай службы палкоўнік Б. Барыньгольц. Па яго рашэнню аб'ёмы тунеляў былі запоўнены 120 кубічнымі метрамі пены, што спыніла гарэнне. Як дадалі нам у цэнтральнай дыспетчарскай службе гарвыканкама, усяго падчас пажару было адключана каля 50 падстанцый, раніцай наступнага дня не падключанымі былі яшчэ каля 20 з іх. Без святла заставаліся вуліцы Ангарская, Алтайская, Байкальская і пасёлак МАЗа. Святло ў кватэры тут далі да вечара пятніцы.

Прычыны здарэння, яго дакладныя маштабы і ўрон зараз высвятляюцца. Для гэтага створана спецыяльная камісія.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## З КАНЦА ЛІПЕНЯ ПАПЯРЭДЖАНЫ НЕЗАКОННЫ ВЫВАЗ ПРАДУКТАЎ НА 190 МІЛЬЯРДАЎ РУБЛЁЎ...

Аб размаху незаконнага вывазу за межы рэспублікі прадуктаў харчавання і тавараў павышанага попыту сведчаць лічбы, якія мы атрымалі ў прэс-цэнтры Міністэрства ўнутраных спраў. Яны, трэба адзначыць, уражваюць.

Так, напрыклад, толькі за перыяд з 25 ліпеня органы правапарадку затрымалі падобнага грузу на агульную суму 190 мільярдаў рублёў. Што карыстаецца найвышэйшым попытам у рознага кшталту махляроў, якія спрабуюць па падробленых дакументах (або такія наогул адсутнічаюць) вывезці з краіны прадукты харчавання? Калі абапірацца на даныя міліцыі, дык гэта жывёла, мяса і мясапрадукты, малочная прадукцыя, яйкі. Напрыклад, за апошні перыяд папярэджаны вываз 207 галоў жывёлы, 394 тон мяса і мясапрадуктаў, 203 тон малочнай прадукцыі і каля 3 мільёнаў штук яек (якія, дарэчы, сёння ў найбольшым дэфіцыце).

Між іншым, у нядзелю ў Наваполацку адбылася «свежая» спроба, якая яшчэ не трапіла ў вышэй прыведзены пералік, калі мінскае вытворча-камерцыйнае прадпрыемства без адпаведнага дазволу спрабавала вывезці за межы рэспублікі сыр. Супрацоўнікі ДАІ папярэдзілі вываз 12 тон 960 кілаграмаў гэтага прадукту на агульную суму 1,4 мільярда рублёў.

І яшчэ некалькі цікавых лічбаў. У перыяд з 25 ліпеня праваахоўнымі органамі праверана каля 6 тысяч прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу. Супрацоўнікамі МУС папярэджана страт сельскагаспадарчай прадукцыі на 9 мільярдаў 860 мільёнаў рублёў, апрыходавана 215 галоў жывёлы, 174 тоны збожжа, 281 тона бульбы і іншай сельскагаспадарчай прадукцыі на 6 мільярдаў 900 мільёнаў рублёў. За гэты ж перыяд тут выяўлена 1458 злачынстваў, з якіх 439 крадзяжоў, 439 дробных крадзяжоў, 9 фактаў вымагання. Да адказнасці за гэтыя злачынствы прыцягнута 1500 чалавек, з якіх 22 кіраўнікі прадпрыемстваў, 113 кіраўнікоў сярэдняга звяна і 226 матэрыяльна адказных асоб.

**Ігар ГРЫШЫН.**

### УСМІХНЁМСЯ!




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

*Прыходзіць п'яніца да нарколага. Урач пытае:*

*— І многа п'яце?*

*— Не многа... Два літры ўсяго ў дзень, не болей.*

*— І даўно п'яце?*

*— Не так даўно... З дзяцінства.*

*— Ну што ж, будзем лячыць.*

*Толькі ўгавор: дзвесце грамаў у дзень, не болей.*

*— Дзвесце? Добра.*

*На наступны дзень увальваецца, на нагах не стаіць, песні спявае.*

*Урач:*

*— Паважаны! Мы ж з вамі дамаўляліся: дзвесце грамаў у дзень, не болей!*

*— А ты думаеш, я ў цябе адзін лячуся?!*



**На здымку** : *сабраную прадукцыю дэманструе Галіна ЦЯСЛЮК.*
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## «ВЫЙГРАЕ ТОЙ, ХТО ДУМАЕ НА ГОД І НАВАТ НА 3—5 ГАДОЎ НАПЕРАД...»

**Нягледзячы на тое, што дасягненні нашай сельскай гаспадаркі (у цэлым па рэспубліцы) па-ранейшаму асабліва не радуюць, тым не менш, справа ў гэтай галіне далёка не безнадзейная. У гэтым, у прыватнасці, пераконвае вопыт гаспадарання на зямлі калектыву агаргандлёвай фірмы «Ждановічы», якая знаходзіцца побач з Мінскам, на яго заходняй ускраіне (знаёмства з ёй для журналістаў рэспубліканскіх выданняў арганізаваў грамадскі прэс-цэнтр Дома друку напярэдадні Дня работнікаў сельскай гаспадаркі).**

**Што ўяўляе сабой аграфірма «Ждановічы»?**

*(Заканчэнне на 4-й стар.).*

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 16 ЛІСТАПАДА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| «Славнефтебанк» | 79900 | 80000 | 43430 | 47490 | 4700 | 4900 | 216-23-91 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 57500,00 | | 40375,64 | | 4050,00 | | Курс на 17.11.1998 |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніивацца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

## НОВАЯ РЭДАКЦЫЯ КОДЭКСА АБ ЗЯМЛІ: УЛАСНІКАЎ СТАНЕ БОЛЕЙ?

***Чакаецца, што з наступнага года ўступіць у дзеянне новая рэдакцыя Кодэкса аб зямлі. Праект новай рэдакцыі ўжо прайшоў першае чытанне ў парламенце і сёння рыхтуецца яго другі разгляд заканатворцамі.***

Як адзначыў старшыня Дзяржаўнага камітэта па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі РБ Георгій Кузняцоў, праект уносіць шэраг новых праўавых нормаў і змяняе фармулёўку большасці артыкулаў.

Дакумент скарачае колькасць тытулаў права на зямельны ўчастак, у прыватнасці такі, як «валоданне зямлёй». Па меркаванню распрацоўшчыкаў — спецыялістаў Дзяржаўнага камітэта па зямельных рэсурсах — увядзенне такога тытула ў зямельнае заканадаўства было недастаткова абгрунтаваным, бо «валодаць» азначае «мець ва ўласнасці». У Рэспубліцы Беларусь, згодна з арт. 13 Канстытуцыі, землі сельскагаспадарчага прызначэння знаходзяцца ва ўласнасці дзяржавы. Таму калгасам, саўгасам, іншым сельска- і лесагаспадарчым прадпрыемствам прапануецца перадаваць зямельныя ўчасткі не ў пастаяннае валоданне, а ў пастаяннае карыстанне. Па гэтай жа прычыне зямельныя ўчасткі, прадастаўленыя грамадзянам для вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі і садаводства прапануецца перавесці ў катэгорыю зямель населеных пунктаў, садаводчых таварыстваў і дачнага будаўніцтва.

Згодна з новай рэдакцыяй зямельнага кодэкса, паўнамоцтвы па прадастаўленню зямельных участкаў у арэнду рэзідэнтам свабодных эканамічных зон могуць быць перададзеныя мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі адміністрацыям СЭЗ.

Новаўвядзеннем стане перадача зямельных участкаў ва ўласнасць юрыдычным асобам, у тым ліку і прадпрыемствам з замежнымі інвестыцыямі пры ажыццяўленні буйных інвестыцыйных праектаў. Спіс такіх праектаў будзе зацвярджацца прэзідэнтам краіны.

Юрыдычныя асобы змогуць атрымліваць участкі ва ўласнасць пры прыватызацыі аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці. Замежныя дзяржавы змогуць стаць гаспадарамі зямлі, дзе знаходзяцца іх дыпламатычныя прадстаўніцтвы ці консульскія ўстановы.

Грамадзяне рэспублікі, якія маюць зямельны ўчастак у пажыццёвым уладанні, атрымаюць права перадачы гэтага надзелу ў спадчыну. Участкі, набытыя сельскімі жыхарамі ва ўласнасць для вядзення асабістай гаспадаркі змогуць перадавацца іх нашчадкам у поўным аб'ёме. Тым самым будзе знята пытанне, якое турбуе гарадскіх нашчадкаў. Па дзеючаму закону апошнія могуць прэтэндаваць толькі на кавалак да 0,25 гектара зямлі ад усёй плошчы, якой валодалі родныя. Больш таго, уладальнікі зямлі атрымаюць права распараджэння ёй па ўласнаму меркаванню: падарыць, прадаць, перадаць у спадчыну.

Праект новай рэдакцыі зямельнага кодэкса прапануе таксама прадаставіць права сельскім выканкамам выдзяляць у арэнду грамадзянам для вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі дадатковыя ўчасткі ў памеры да 3 гектараў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## БАНКАМ ДАЗВОЛЕНА ПАВЫСІЦЬ КУРС АБМЕНУ СКВ. КАЦІРОЎКІ «ПАПАЎЗЛІ» ЎГОРУ

**Курс нацыянальнай валюты ў выніку абвалу на расійскіх фінансавых рынках на айчынным узляцеў больш чым у тры разы. А што датычыцца «абменнікаў», то яны аказаліся літаральна мёртванароджанымі дзецьмі, шэраг з іх сваё існаванне да гэтага часу ўжо спыніў.**

Зразумела, у дадзенай сітуацыі далейшая адсутнасць нейкіх канкрэтных дзеянняў галоўнай фінансавай установы поўнасцю прымусіла б зачыніць акенцы абменных пунктаў. Не сакрэт, што сёння на поўную моц працуе толькі ценявы банкнотны рынак, дзе курс абмену наяўнай валюты задавальняе як дзялкоў, так і апынуўшыхся без права выбару грамадзян — ім купіць цвёрда канверсоўную магчыма толькі там. І Нацыянальны банк прыняў рашэнне: учора банкі атрымалі тэлеграму, якая дазволіла апошнім узняць курс, аднак не больш чым у паўтара раза ад курсу, які афіцыйна ўстанаўліваецца Нацыянальным банкам РБ. Такім чынам, максімальны курс куплі долара ўжо ў панядзелак у «абменніках» склаў 98 тысяч рублёў, а продажу — 99 тысяч рублёў за адзін долар.

Безумоўна, апошняе рашэнне, якое прыняў галоўны банк, павінна нейкім чынам змяніць сітуацыю на рынку валюты. У Нацбанку спецыялісты, з якімі прыйшлося гутарыць карэспандэнту «Звязды», яго ўхваляюць. Напрыклад, начальнік упраўлення інфармацыі гэтай фінансавай установы Анатоль Драздоў так пракаменціраваў тэлеграму: «Гэта адзін з крокаў на шляху да лібералізацыі валютнага рынку і ўстанаўлення адзінага абменнага курса ў краіне».

У камерцыйных установах таксама вітаюць гэты крок: маўляў, гэта ўжо нешта, ёсць спроба вывесці становішча з тупіка. Аднак у той жа час многія спецыялісты мяркуюць, што наўрад ці цяперашні дазвол, дакладней абмежаванне ў паўтара раза, істотна паўплывае на канкурэнцыю паміж ценявым банкнотным рынкам і легальнымі «абменнікамі». Нягледзячы на новыя курсы, усё ж такі ў выйгрышы застаюцца вулічныя мянялы. Дарэчы, учора ў іх курс куплі-продажу долара складаў 175—180 тысяч рублёў за долар. Нескладана падлічыць, што ў дадзенай сітуацыі перавага будзе аддавацца ўсё ж «чорнаму рынку». Але ці поўнасцю гэта перакрэслівае надзею на тое, што запрацуюць установы і юрыдычныя асобы, якія маюць ліцэнзію на ажыццяўленне валютна-абменных аперацый? Цяжка меркаваць, хоць, зноў-такі паўторымся, ценявіе знаходзяцца куды ў больш выгадным становішчы.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

# РАСПАРАДЖЭННЕ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 317

## АБ УТВАРЭННІ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ШТАБА ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

1. У мэтах забеспячэння эканамічнай стабільнасці ў Рэспубліцы Беларусь і пераадолення крызісных з'яў у эканоміцы ўтварыць Рэспубліканскі штаб пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь у наступным саставе:

*Мяснікові Міхаіл Уладзіміравіч* — кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (кіраўнік Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь)

*Бажэлка Алег Аляксандравіч* — Генеральны пракурор

*Бойка Уладзімір Васільевіч* — старшыня Вышэйшага Гаспадарчага Суда

*Дамашкевіч Мікалай Фёдаравіч* — старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю

*Лінг Сяргей Сцяпанавіч* — прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь

*Пласкавіцкі Аляксандр Леанідавіч* — начальнік Галоўнага дзяржаўна-прававога ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

*Пракаповіч Пётр Пятровіч* — старшыня праўлення Нацыянальнага банка

*Сукала Валянцін Алегавіч* — старшыня Вярхоўнага суда

*Шэйман Віктар Уладзіміравіч* — дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь — памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы

2. Рэспубліканскі штаб пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь падпарадкоўваецца Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, дзейнічае на падставе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і рашэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, забяспечвае няўхільнае захаванне заканадаўства Рэспублікі Беларусь і ажыццяўляе паўнамоцтвы, ускладзеныя на яго Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

3. Ускласці на Рэспубліканскі штаб пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь:

падрыхтоўку і ўнясенне на разгляд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прапаноў па вызначэнню і рэалізацыі асноўных напрамкаў унутранай і знешняй палітыкі;

кантроль за выкананнем рашэнняў кіраўніка дзяржавы;

прыняцце рашэнняў па рэалізацыі мераў, вызначаных Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Названыя рашэнні з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь, іншых юрыдычных і фізічных асоб на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

выкананне іншых даручэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Парадак ажыццяўлення дзейнасці Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь вызначаецца яго кіраўніком па ўзгадненню з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

4. Прадаставіць кіраўніку Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь права прыцягваць да ажыццяўлення дзейнасці Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь работнікаў дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь.

5. Гэта распараджэнне ўступае ў сілу з 11 лістапада 1998 г.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*11 лістапада, 1998 г. г.Мінск.*

# НА ПАСЯДЖЭННІ ШТАБА ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РАЗГЛЕДЖАНЫ НАДЗЁННЫЯ ПЫТАННІ РАБОТЫ ПРАМЫСЛОВАСЦІ

Надзённыя пытанні развіцця айчыннай прамысловасці былі разгледжаны 13 лістапада на пасяджэнні штаба пры прэзідэнце краіны. Яно прайшло пад старшынствам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча. У пасяджэнні прынялі ўдзел прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман, старшыня праўлення Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч, намеснік прэм'ер-міністра Валерый Кокараў, старшыня Вярхоўнага суда Уладзімір Бойка, Генеральны пракурор Алег Бажэлка, міністры, старшыні аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама, кіраўнікі канцэрнаў і прадпрыемстваў.

Намеснік прэм'ер-міністра Валерый Кокараў выступіў з паведамленнем, дзе адзначыў, што тэмп, які набрала прамысловасць Беларусі з пачатку гэтага года, апошнім часам пачаў імкліва страчвацца. Асноўныя прычыны — фінансавы крызіс у Расіі, адсутнасць рэальнага курса беларускага рубля ў адносінах да долара, рост цэн на завозімыя з-за межаў краіны матэрыялы і сыравіну, а таксама недастатковае ўменне нашых кіруючых кадраў працаваць у складаных рыначных умовах. Былі названы і першачарговыя праблемы, якія трэба вырашыць у сувязі з гэтым. Перш за ўсё гэта павышэнне якасці і канкурэнтаздольнасці нашых тавараў на ўнутраным і знешнім рынках, больш актыўнае прыцягненне ў краіну буйных замежных інвестараў, зніжэнне выдаткаў вытворчасці і поўная загрузка вытворчых магутнасцяў, рэструктурызацыя, перапрафіляванне, санацыя і банкруцтва прадпрыемстваў, пошукі новых рынкаў збыту і, нарэшце, строгі ўлік і кантроль.

З прапановамі і заўвагамі выступілі таксама намеснік старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Канстанцін Сумар; дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман, міністр прамысловасці Анатоль Харлап, кіраўнікі канцэрнаў і прадпрыемстваў.

Удзельнікі пасяджэння выпрацавалі пакет канкрэтных прапаноў. Іх рэалізацыя дасць магчымасць аздаравіць абстаноўку ў прамысловасці, з найменшымі стратамі завяршыць сёлетні год і стварыць задзел на будучыню.

**Алег ШВЕДАЎ, БЕЛТА.**

# МІХАІЛ МЯСНІКОВІЧ ДАЛАЖЫЎ ПРЭЗІДЭНТУ АБ РАБОЦЕ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ШТАБА

Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка 16 лістапада прыняў з дакладам кіраўніка сваёй Адміністрацыі, кіраўніка Рэспубліканскага штаба пры прэзідэнце Міхаіла Мясніковіча.

Як паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы, Аляксандр Лукашэнка заслухаў інфармацыю аб рабоце, якая праводзіцца Рэспубліканскім штабам у адпаведнасці з даручэннямі, дадзенымі прэзідэнтам на нарадзе па праблемах спажывецкага рынку краіны. Кіраўніку дзяржавы было далажана таксама аб выніках пасяджэння штаба, якое адбылося 13 лістапада. На ім аналізавалася становішча спраў у прамысловасці і абмяркоўваліся неабходныя меры па забеспячэнню яе ўстойлівага функцыянавання.

У паведамленні прэс-службы адзначаецца, што прэзідэнт пагадзіўся з пералікам першачарговых пытанняў, вынесеных на разгляд Рэспубліканскага штаба на гэтым тыдні. У парадак дня яго маючых адбыцца пасяджэнняў уключаны такія праблемы, як цэнавая палітыка, курсаўтварэнне, абавязковы продаж свабодна канверсоўнай валюты, арганізацыя работы гандлю, дзейнасць праваахоўных органаў і судоў па абароне спажывецкага рынку. На асобных пасяджэннях штаб разгледзіць работу ўрада, аблвыканкамаў, шэрагу міністэрстваў і ведамстваў па забеспячэнню краіны прадуктамі харчавання, лячэбных і аптэчных установ медыкаментамі і медыцынскай тэхнікай, а таксама па адшуканню дадатковых крыніц фінансавання дзяржаўных расходаў і па эканоміі дзяржаўных сродкаў.

Кіраўнік дзяржавы на спецыяльнай нарадзе ў чацвер мае намер заслухаць справаздачы кіраўніка і членаў Рэспубліканскага штаба, а таксама кіраўніцтва ўрада аб праведзенай рабоце па гэтых пытаннях, гаворыцца ў паведамленні прэс-службы прэзідэнта краіны.

**БЕЛТА.**

## *Работнікам сельскай гаспадаркі, перапрацоўчай прамысловасці і сацыяльнай сферы ў вёсцы, фермерам, ветэранам сельскагаспадарчай вытворчасці і сельскай моладзі*

Паважаныя таварышы!

Сардэчна віншую вас з Днём работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці аграпрамысловага комплексу.

Завяршаецца сельскагаспадарчы год, што запатрабаваў ад вас сапраўды гераічных намаганняў, арганізаванасці і высокай дысцыпліны, якія далі магчымасць у вельмі складаных умовах убраць з палёў збожжа і павысіць прадукцыйнасць жывёлагадоўчых фермаў. Больш, чым у мінулым годзе, атрымана бульбы, цукровых буракоў, агародніны, ільну, мяса і малака. Жыхары Беларусі забяспечаны неабходнымі прадуктамі харчавання, значная частка іх пастаўляецца на экспарт.

Дасягнутыя вынікі — заслуга ўсіх вас, хто з поўнай аддачай працаваў на палях, фермах, у майстэрнях, на перапрацоўчых прадпрыемствах, у навуковых установах, абслуговых арганізацыях, на фермерскіх сядзібах, асабістых падвор'ях, у сацыяльнай сферы ў вёсцы. Разам з сялянамі важкі ўклад ва ўборку ўраджаю ўнеслі і работнікі прамысловых, транспартных і іншых прадпрыемстваў, воіны Узброеных Сіл, насельніцтва гарадоў, ветэраны сельскагаспадарчай вытворчасці і сельская моладзь.

Краіна ацаніла вашу працу, узнагародзіўшы многіх удзельнікаў уборкі, лепшыя калектывы гаспадарак, раёны і вобласці на рэспубліканскім фестывалі-кірмашы працаўнікоў вёскі «Дажынкі-98». Шэраг работнікаў адзначаны на абласных, раённых фестывалях і непасрэдна ў гаспадарках.

У гэты святочны дзень я звяртаюся да кіраўнікоў, спецыялістаў гаспадарак, механізатараў, жывёлаводаў, іншых работнікаў аграрнага сектара, ветэранаў сельскагаспадарчай вытворчасці і сельскай моладзі мабілізаваць свае сілы на паспяховае правядзенне зімоўкі жывёлы, на выкананне ўсіх работ па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы, на эфектыўнае выкарыстанне перапрацоўваемай сельскагаспадарчай сыравіны, на стварэнне трывалай асновы для далейшага развіцця аграрнай галіны рэспублікі.

Ваша высакародная справа, накіраваная на забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання, заўсёды будзе і ў далейшым падтрымлівацца прэзідэнтам і ўрадам краіны. Вырашаць праблемы і пераадольваць цяжкасці мы павінны разам.

Дзякуй вам за самаадданую працу.

У дзень прафесійнага свята ад усёй душы жадаю вам новых працоўных поспехаў на карысць роднай Беларусі. Моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту вам і вашым блізкім.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

*15 лістапада 1998 г.*

# РАШЭННЕ

## Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь № 2

## АБ СТАНЕ СПРАЎ У ПРАМЫСЛОВАСЦІ РЭСПУБЛІКІ

1. Адзначыць недастатковую работу Савета Міністраў па кіраўніцтву прамысловасцю, што прывяло да парушэнняў стабільнасці ў рабоце прадпрыемстваў галіны, зніжэння тэмпаў росту прамысловай вытворчасці і яе рэнтабельнасці, асваення новай тэхнікі і тэхналогій, якасці і канкурэнтаздольнасці прадукцыі і, як вынік, скарачэння экспарту, росту складскіх запасаў прадукцыі, узнікнення фактаў скарачэння загрузкі вытворчых магутнасцяў і рабочых месцаў.

2. Указаць міністру прамысловасці А. Д. Харлапу, прэзідэнту канцэрна «Белмясцпрам» М. І. Поўху на нізкі ўзровень фінансава-эканамічнай работы, адсутнасць дзейсных мераў па скарачэнню дэбіторскай і крэдыторскай запазычанасці, захаванню абаротных сродкаў прадпрыемстваў, пашырэнню рынкаў збыту выпускаемай прадукцыі, неэфектыўны кантроль за выкананнем прымаемых рашэнняў.

3. Адзначыць нездавальняючую работу Мінзнешэканамсувязяў (Марыніч) па забеспячэнню росту экспарту Рэспублікі Беларусь, слабую эканамічную прапрацоўку ім перспектыўных напрамкаў гандлёвага супрацоўніцтва рэспублікі з іншымі краінамі і рэальных умоў заключэння міждзяржаўных пагадненняў у гэтай сферы. Міністэрству забяспечыць належны прафесійны ўзровень у рабоце з кадрамі, адказнымі за прасоўванне беларускіх тавараў на замежныя рынкі.

4. Звярнуць увагу кіраўнікоў аблвыканкамаў, Мінскага гарвыканкама на слабы ўплыў выканаўчых і распарадчых органаў на месцах на сацыяльна-эканамічнае становішча прадпрыемстваў, размешчаных на іх тэрыторыях, адсутнасць актыўнай мэтанакіраванай работы па развіццю вытворчасцяў, работ, паслуг, якія забяспечваюць найбольш поўнае задавальненне патрэбнасцяў і занятасць насельніцтва.

5. Савету Міністраў:

да 20 лістапада вызначыць комплекс канкрэтных мераў па нарошчванню экспарту і скарачэнню імпарту тавараў, рэальнай падтрымкі прадпрыемстваў-экспарцёраў, уключаючы стымуляванне звышпланавага экспарту прадукцыі (работ, паслуг) айчынных таваравытворцаў шляхам прадастаўлення падатковых і іншых ільгот, урэгуляванне пытанняў зніжэння чыгуначных тарыфаў па перавозцы экспартных грузаў і тавараў крытычнага імпарту;

прыняць рашэнне аб дзяржаўнай падтрымцы экспартаарыентаваных праектаў.

6. Савету Міністраў да 29 лістапада 1998 г. падрыхтаваць і зацвердзіць рэспубліканскую праграму развіцця станкабудаўнічай і інструментальнай прамысловасці, а таксама ўнесці на разгляд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь праект Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб мерах дзяржаўнай падтрымкі станкабудаўнічых і інструментальных прадпрыемстваў» у мэтах пашырэння магчымасцяў па нарошчванню выпуску высокатэхналагічнай айчыннай прадукцыі, якая карыстаецца павышаным попытам на сусветным рынку.

7. Мінпраму, канцэрнам «Беллегпрам», «Беллеспаперпрам», «Белмясцпрам», аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму прыняць дзейсныя меры па выкананню даведзеных квот пастаўкі спажывецкіх тавараў на ўнутраны рынак рэспублікі.

Разгледзець на працягу лістапада 1998 г. на пасяджэннях аблвыканкамаў, Мінскага гарвыканкама з кіраўніцтвам гэтых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання пытанні найбольш поўнага задавальнення спажыўцоў рэгіёнаў у таварах народнага спажывання.

8. У адпаведнасці з пунктам 5 рашэння № 1 Рэспубліканскага штаба ад 12 лістапада 1998 г. даручыць Нацыянальнаму банку да 20 лістапада 1998 г. сумесна з Цэнтрабанкам Расіі ўпарадкаваць разлікі з расійскімі банкамі і суб'ектамі гаспадарання. Аператыўна даводзіць да суб'ектаў гаспадарання і банкаў Рэспублікі Беларусь інфармацыю аб формах і ўзгодненых умовах узаемаразлікаў.

9. Мінэканомікі з улікам сітуацыі, што складваецца на знешніх рынках, да 20 лістапада 1998 г. удакладніць заданні па зніжэнню тавараабменных (бартэрных) аперацый на перыяд да канца 1998 года.

10. ДКНТ, Мінфіну, Мінэканомікі, Мінзнешэканамсувязяў, Мінпраму, Мінюсту падрыхтаваць і ўнесці ў Савет Міністраў праект Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб мерах дзяржаўнай падтрымкі галіновай навукі».

11. Савету Міністраў у месячны тэрмін вырашыць пытанне аб кампенсацыі пастаўшчыкам скупраной сыравіны яе кошту з улікам валютнай выручкі.

Кантроль за выкананнем гэтага рашэння ўскласці на членаў Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па прыналежнасці.

**Кіраўнік Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь М. МЯСНІКОВІЧ.**

*13 лістапада 1998 г., г. Мінск.*

# ПЕРШАЯ АСАБІСТАЯ СУСТРЭЧА ПРЭЗІДЭНТАЎ БЕЛАРУСІ І ЛІТВЫ ПАСЛУЖЫЦЬ АСНОВАЙ ДЛЯ РАЗВІЦЦЯ ПАЛІТЫЧНАГА ДЫЯЛОГА ПАМІЖ ДЗВЮМА КРАІНАМІ Ў БУДУЧЫНІ

Першая асабістая сустрэча прэзідэнтаў Беларусі і Літвы і праведзеныя перагаворы павінны паслужыць трывалай асновай для развіцця дыялога паміж дзвюма дзяржавамі па ўсяму спектару ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва і прынесці вялікую карысць беларускаму і літоўскаму народам. Такі пункт гледжання 12 лістапада выказаў кіраўнік беларускай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка ў хуткім часе пасля сустрэчы са сваім літоўскім калегам — прэзідэнтам гэтай краіны Валдасам Адамкусам.

Беларуска-літоўская сустрэча на вышэйшым узроўні прайшла на літоўскім прапускным пункце Мядзінінкай у некалькі этапаў. Спачатку кіраўнікі Беларусі і Літвы Аляксандр Лукашэнка і Валдас Адамкус правялі сустрэчу сам-насам, а ў гэты ж час міністр замежных спраў Іван Антановіч сустракаўся з кіраўніком літоўскага знешнепалітычнага ведамства Альгірдасам Саўдаргасам. Затым адбыліся перагаворы ў пашыраным саставе, у якіх з беларускага боку прынялі ўдзел дзяржаўны сакратар Савета бяспекі, памочнік прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы Віктар Шэйман, міністр замежных спраў Іван Антановіч, міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Іван Шакола, прэзідэнт канцэрна «Белэнерга» Валянцін Герасімаў і іншыя афіцыйныя асобы.

Па выніках сустрэчы кіраўнікоў дзвюх дзяржаў было прынята сумеснае паведамленне для друку. У ім, у прыватнасці, гаворыцца, што ў ходзе перагавораў беларускі і літоўскі бакі адзначылі агульнае імкненне развіваць добрасуседскія адносіны паміж дзвюма дзяржавамі ў адпаведнасці з палажэннямі Дагавора аб добрасуседстве і супрацоўніцтве паміж Літоўскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь ад 6 лютага 1995 года, а таксама іншых міжнародных і двухбаковых дакументаў.

Прэзідэнты Беларусі і Літвы выказаліся за пашырэнне кантактаў паміж грамадзянамі, моладдзю, няўрадавымі арганізацыямі, установамі друку і інфармацыі дзвюх краін. З гэтай мэтай дасягнута дамоўленасць аб стварэнні сумеснага фонду імя Францыска Скарыны.

Асобным блокам у сумесным паведамленні для друку выдзелены праблемы, звязаныя з дэмаркацыяй і аховай беларуска-літоўскай граніцы. У прыватнасці, Аляксандр Лукашэнка і Валдас Адамкус выказалі зацікаўленасць у хутчэйшым завяршэнні дэмаркацыі агульнай граніцы і развіцці яе інфраструктуры, удзяляючы асаблівую ўвагу павелічэнню прапускной здольнасці кантрольна-прапускных пунктаў, а таксама стварэнню сістэмы надзейнага пагранічнага кантролю. Прэзідэнты таксама адзначылі, што нелегальная міграцыя з'яўляецца актуальным пытаннем для Беларусі і Літвы. Кіраўнікі дзяржаў аднадушныя ў тым, што гэта праблема можа быць урэгулявана шляхам увядзення практыкі рэадмісіі нелегальных мігрантаў з удзелам усіх зацікаўленых бакоў.

Аляксандр Лукашэнка і Валдас Адамкус заявілі, што Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка паважаюць права кожнай дзяржавы ўступаць у міжнародныя палітычныя, эканамічныя і абаронныя саюзы, не парушаючы пры гэтым атмасферы добрасуседства і даверу, якая склалася ў рэгіёне.

**БЕЛТА.**

# ГЕНАДЗЬ СЕЛЯЗНЁЎ ІНФАРМАВАЎ СТАРШЫНЮ ВЫШЭЙШАГА САВЕТА САЮЗА БЕЛАРУСІ І РАСІІ

**У сталічнай рэзідэнцыі кіраўніка беларускай дзяржавы ў Вайсковым завулку 13 лістапада за зачыненымі дзвярамі прайшла сустрэча прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі са Старшынёй Дзяржаўнай Думы Федэральнага Сходу Расіі Генадзем Селязнёвым.**

Як заявіў пасля яе журналістам спікер ніжняй палаты расійскага парламента, размова на сустрэчы ішла аб маючых адбыцца ў снежні ў Мінску пасяджэнні Выканкама «саюза дзвюх» і пазачарговай сесіі Парламенцкага Сходу. Абмяркоўвалася і пытанне аб правядзенні пасяджэння Вышэйшага Савета Саюза Беларусі і Расіі.

Генадзь Селязнёў падрабязна праінфармаваў Старшыню Вышэйшага Савета Аляксандра Лукашэнку аб дакументах, прынятых на праведзенай у Яраслаўлі сесіі Парламенцкага Сходу «саюза дзвюх», у тым ліку і аб папраўках у Статут Саюза, якія датычаць адзінага грамадзянства і статусу Парламенцкага Сходу як прадстаўнічага органа. Акрамя таго, на сустрэчы прэзідэнта і спікера абмяркоўваліся пытанні, звязаныя з унутранай і знешняй палітыкай дзвюх дзяржаў.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

# ГЕНАДЗЬ СЕЛЯЗНЁЎ ПАБЫВАЎ НА БЕЛАРУСКІХ ПРАДПРЫЕМСТВАХ

У рамках рабочага візіту ў Мінск Старшыні Дзярждумы Федэральнага Сходу Расіі Генадзя Селязнёва раніцай 13 лістапада адбылася яго сустрэча ў канцэрне «Белрэсурсы» з удзельнікамі навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай праблемам неплацяжоў і выканання маёмасных абавязацельстваў у гандлёва-эканамічных адносінах краін СНД.

«На працягу бліжэйшых пяці дзён пытанні ўзаемных плацяжоў паміж Беларуссю і Расіяй будуць адрэгуляваны, — заявіў, выступаючы перад прысутнымі, Генадзь Селязнёў.

Далей спікер Дзярждумы адзначыў, што галоўнай мэтай яго візіту ў Мінск з'яўляецца прадаўжэнне сумеснай работы з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам і беларускімі парламентарыямі па стварэнню асноўных дакументаў, якія забяспечаць трывалую будучыню Саюза Беларусі і Расіі. У снежні гэты прававы фундамент павінен быць зацверджаны на пасяджэнні Вышэйшага Савета, яго Выканкама, а таксама на пазачарговай сесіі Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі.

У час знаходжання Генадзя Селязнёва ў канцэрне «Белрэсурсы» яго суправаджалі старшыні абедзвюх палат Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Анатоль Малафееў і Павел Шыпук.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

Старшыня Дзярждумы Расійскай Федэрацыі Генадзь Селязнёў, 13 лістапада наведаў вытворчае аб'яднанне «БелаўтаМАЗ» і Мінскі завод колавых цягачоў. Яго суправаджалі старшыні абедзвюх палат Нацыянальнага сходу Анатоль Малафееў і Павел Шыпук.

Спікер Дзярждумы азнаёміўся з умовамі працы рабочых і з узорамі прадукцыі, якую выпускаюць на гэтых прадпрыемствах. Генеральны дырэктар завода колавых цягачоў Уладзімір Волкаў расказаў госцю, што вялікая ўвага ўдзяляецца кааперацыйнаму супрацоўніцтву з расійскімі вытворцамі. У прыватнасці, цягачы мінскай вытворчасці працуюць на нафтавых свідравінах Урэнгоя і Ніжнявартаўска.

Аднак, паводле слоў Уладзіміра Волкава, у мінчан ёсць пэўныя праблемы ва ўзаемаадносінах з расійскімі партнёрамі. Апошнім часам завадчане на новыя машыны «Волат» вымушаны ставіць рухавікі нямецкай вытворчасці «Дойц», паколькі Яраслаўскае АТ «Аўтадызель» недапаставіла каля 400 вырабаў.

Закранаючы пытанні прэзідэнцкай гонкі, якая разгортваецца ў Расіі, Генадзь Селязнёў адзначыў, што цяпер аб вылучэнні адзінай кандыдатуры ад левых сіл размова не ідзе. І ў гэтым пытанні ў яго няма рознагалоссяў з кіраўніком фракцыі КПРФ у Дзярждуме Генадзем Зюганавым. Акрамя таго, Старшыня Дзярждумы асудзіў вядомыя выказванні генерала Макашова, назваўшы іх «правакацыйнымі».

**Ігар ХОМІЧ, БЕЛТА.**

**УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 550**

## Аб узнагароджанні Л. К. Шаблоўскай медалём Францыска Скарыны

За шматгадовую плённую працу па распаўсюджванню выданняў перыядычнага друку ўзнагародзіць дырэктара Мінскага гарадскога аптова-рознічнага прадпрыемства «Белсаюздрук» Шаблоўскую Ларысу Кузьмінічну медалём Францыска Скарыны.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*16 лістапада 1998 г., г.Мінск.*

***ПАВЕДАМЛЕННЕ***

## АБ ІНДЭКСЕ СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН ЗА КАСТРЫЧНІК 1998 ГОДА

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што за кастрычнік 1998 года індэкс спажывецкіх цэн у параўнанні з вераснем 1998 года склаў 121 працэнт, са снежнем 1997 года — 185,1 працэнта.

## АБ ПАМЕРЫ ЎТРЫМАННЯ З НАЙМАЛЬНІКАЎ СРОДКАЎ ДЛЯ ЗАБЕСПЯЧЭННЯ СВОЕЧАСОВАЙ ВЫПЛАТЫ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ

У сувязі з апублікаваннем за кастрычнік 1998 г. індэкса спажывецкіх цэн Міністэрства працы і Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь паведамляюць.

У кастрычніку мінімальны спажывецкі бюджэт (МСБ) на аднаго члена сям'і з чатырох чалавек склаў 4.567.848 (3775081 x 1,21) рублёў у месяц.

Згодна з пастановай Мінпрацы і Мінстата ад 22.02.1996 г. № 13/4 для забеспячэння своечасовай выплаты заработнай платы неабходна ўтрымліваць з наймальнікаў суму ў памеры 60 працэнтаў МСБ — гэта значыць 2.740.710 рублёў на кожнага работніка (4567848 x 60 : 100).

Названы нарматыў прымяняецца з дня апублікавання ў друку пры падачы заяўкі для атрымання сродкаў на заработную плату і пагашэння яе запазычанасці незалежна ад тэрмінаў утварэння.

## КАМЕНТАРЫЙ АБ ПАРАДКУ ІНДЭКСАЦЫІ ДАХОДАЎ НАСЕЛЬНІЦТВА ЗА КАСТРЫЧНІК 1998 Г.

У сувязі з апублікаваннем індэкса спажывецкіх цэн за кастрычнік 1998 г. Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь паведамляе.

У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі» і згодна з пастановай Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь ад 28 жніўня 1998 г. № 1359 «Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы, тарыфнай стаўкі першага разраду і ўдасканаленні Адзінай тарыфнай сеткі работнікаў Рэспублікі Беларусь» індэксацыя грашовых даходаў за кастрычнік гэтага года, атрымліваемых з бюджэтных крыніц, праведзена ў выглядзе аднаразовага перагляду памераў аплаты працы, сацыяльных пенсій, дапамог, стыпендый, грашовага забеспячэння, а таксама сум кампенсацыі ўрону, нанесенага калецтвам або іншым пашкоджаннем здароўя, звязаным з выкананнем працоўных абавязкаў, за выключэннем дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей.

Улічваючы, што індэкс спажывецкіх цэн у кастрычніку ў параўнанні з вераснем г. г. перавысіў пяціпрацэнтны парог, дапамогі сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, за кастрычнік г. г. індэксуюцца на 78,2 працэнта, вылічаных нарастаючым падрахункам да студзеня г. г.

Індэксацыя ажыццяўляецца з прымяненнем пераменнай шкалы нарматываў індэксацыі на кожны працэнт прыросту спажывецкіх цэн для розных частак даходу:

у межах 700.000 рублёў — 1 працэнт

ад 700.001 да 1.400.000 рублёў — 0,5 працэнта.

Частка даходу, якая перавышае 1.400.000 рублёў, не індэксуецца.

Насельніцтву, якое атрымлівае даходы з іншых крыніц, кампенсацыя страт ад інфляцыі ажыццяўляецца па асновах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі).

# Для жадаючых у Германію зноў запалена зялёнае святло

**Як паведамлялася, на тыдзень была прыпынена работа візавага аддзела Пасольства ФРГ у Рэспубліцы Беларусь. Часовыя нязручнасці былі выкліканы тым, што аддзел пераязджаў у новы будынак.**

А ў мінулую пятніцу «Звязда» атрымала паведамленне, што нямецкія дыпламаты зноў прыступілі да работы ўжо па адрасу вул. Будзённага, дом 10, што ў нейкай сотні крокаў ад станцыі метро «Трактарны завод». Магчымасці новага будынка, на думку супрацоўнікаў пасольства, дазволяць больш эфектыўна працаваць з беларускімі грамадзянамі, верагодна, скароцяцца чэргі на афармленне дакументаў і атрыманне віз. Цяпер прыём наведвальнікаў будзе весціся адначасова васьмю аператарамі.

Пасольства ФРГ таксама паведамляе новыя тэлефоны свайго візавага аддзела, а таксама аддзела права і эканомікі: 230-35-30, 230-12-14, 230-89-18, 210-51-75. Факс 230-37-97.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

***Сітуацыя***

# «НУ ПАЧАКАЙ!»

## — угаворвае ЖЭС жыхара. Аднак ва ўсякага чакання ёсць свая мяжа...

Ацяпляльны сезон пачаўся ўжо больш за месяц таму. У кватэры прыйшло доўгачаканае цяпло. Але, як гэта ні крыўдна, даволі часта жыхары і ЖЭСы становяцца «на барыкады». Узнікае такая сітуацыя ў тым выпадку, калі спецыялісты жыллёва-эксплуатацыйнай службы альбо зусім не выконваюць сваіх абавязкаў, ці выконваюць іх толькі пасля «напамінаў». Ацяпляльны сезон — сапраўдны «пік» абвастрэння адносінаў.

Яно і зразумела — ацяпленне і водазабеспячэнне ці не самыя «асноўныя» паслугі. Калі няма іх, то знікае і камфорт асяроддзя пражывання. У кватэры ўжо не тая ўтульнасць, ды і настрой ў жыхара далёкі ад ідэальнага. А работнікі ЖЭСа яшчэ і палохаюць: плаціце, а то адключым ваду. За што плаціць, калі паслуга проста адсутнічае?

Менавіта такая сітуацыя ўзнікла сёлета ў Мінску на Лагойскім тракце, 30, корпус 1. Жыхары чацвёртага пад'езда гэтага дома пачатку сёлетняга ацяпляльнага сезона проста не заўважылі — батарэі ў іх па-ранейшаму халодныя як лёд. У кватэрах вельмі холадна, прыходзіцца паліць газ і апранацца (у хаце, як на вуліцы). У гэтым пераканаўся асабіста падчас наведвання «халоднага» пад'езда. У 72-й кватэры жыхары ходзяць у валёнках і вушанках. «А што рабіць? — заўважыла гаспадыня, — Трэба ж нейкім чынам выжываць».

У ЖЭСе ж разводзяць рукамі і... абяцаюць выправіць сітуацыю. Такая размова ідзе ўжо амаль месяц. Сантэхнікі прыходзяць у кватэры, даследуюць ацяпляльнае абсталяванне, складаюць адпаведныя паперы і знікаюць. Раз'юшаныя жыхары тэлефануюць і абураюцца. І так можа працягвацца бясконца...

Калі мы звязаліся з дыспетчарам ЖЭС № 78, то прычынай халодных батарэй была названа наяўнасць паветра ў інжынерных сістэмах. Каб выправіць няспраўнасць, неабходна, каб усе жыхары былі на месцы, а зрабіць гэта цяжка таму, што працоўны дзень сантэхнікаў заканчваецца ў 18.00. Вось і замыкаецца «кола». Жыхары ўжо знаходзяцца на «мяжы», дык гэта дарослыя, яны лягчэй пераносяць халадэчу, а малым як быць? Работнікі ЖЭСа кампетэнтнага адказу даць не могуць, а на вуліцы, між тым, не цяплее...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# «Звязда» едзе ў Акцябрскі

**18 і 19 лістапада ў Акцябрскім раёне будзе працаваць «выязная прыёмная» газеты «Звязда», Федэрацыі прафсаюзаў, міністэрстваў жыллёва-камунальнай гаспадаркі, сацыяльнай абароны і аховы здароўя.**

**«Выязная прыёмная» пачне працаваць 18 лістапада ў 15.00 у будынку райвыканкама. У 18.00 пачнецца сустрэча з насельніцтвам у вёсцы Чырвоная Слабада.**

**19 лістапада з 8.30 удзельнікі «выязной прыёмнай» будуць знаходзіцца ў вёсцы Рассвет.**

# Да нас едзе Ульянаў! Міхаіл!

*З 22 па 29 лістапада прыхільнікі кіно змогуць убачыць фестываль «Лістапад», які штогод праходзіць у Мінску.*

З гэтай нагоды мы сустрэліся з народным артыстам СССР Міхаілам Ульянавым, якога папрасілі расказаць пра свой новы фільм «Сачыненне да Дня Перамогі».

— Алег Яфрэмаў, Вячаслаў Ціханаў і я іграем трох лётчыкаў, якія захопліваюць самалёт і злятаюць невядома куды, — больш іх ніхто не ўбачыць. Гэта адзіны крок, які ратуе іх ад штодзённай рэчаіснасці. На мой погляд, гэты фільм атрымаўся вельмі душэўным, простым, дэмакратычным. Ён стварае атмасферу нашага сённяшняга няпростага жыцця.

Плануецца, што М. Ульянаў і В. Ціханаў прыедуць у Мінск і асабіста прадставяць карціну сталічным гледачам. Нам застаецца толькі чакаць.

**Вольга РАМАНЮК.**

# Грыбны сезон выдаўся для нарыхтоўшчыкаў ураджайным

**Як паведамілі «Звяздзе» ў Белкаапсаюзе, сёлета ў рэспубліцы было нарыхтавана 918 тон грыбоў, што ўдвая перавышае паказчык мінулага года.**

Найбольш удала спрацавалі нарыхтоўшчыкі ў Гомельскай і Мінскай абласцях, дзе ў кожнай было закуплена ў насельніцтва па 225 тон грыбной прадукцыі. А менш за ўсё нарыхтавалі грыбоў у Магілёўскай (130 тон) і Гродзенскай абласцях (125 тон).

Практычна ўвесь сёлетні ўраджай застаўся ў Беларусі. Асноўны «валютны» прадукт — лісічкі, якія, дарэчы, прымаўся ў насельніцтва на працягу сезона па 55—60 тыс. руб. за кілаграм, — раптам перастаў карыстацца на Захадзе попытам. А дакладней, яго выцясніла з заходнееўрапейскага рынку кітайская прадукцыя.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

***Крымінал***

# Замест нямецкіх марак махляр падсунуў бразільскія крузейра

Ахвярай спрытнага махляра стала нядаўна жыхарка Гродна, якой хацелася прадаць музычны цэнтр. Даволі салідны пакупнік, які пераступіў парог кватэры, зусім не выклікаў у яе падазрэнне. Праўда, замест долараў прапанаваў 500 нямецкіх марак — суму ў рублях нават большую за кошт «Філіпса». Разам з музычным цэнтрам гаспадыня перадала мужчыну 70 «зялёных» рэшты. Толькі калі малады чалавек разам з пакупкай быў ужо на вуліцы, жанчына пры больш дэталёвым вывучэнні купюры з жахам даведалася аб яе бразільскім паходжанні. А маркі і крузейра — гэта зусім розныя грошы па сваёй пакупной вартасці. 500 крузейра можа не хапіць нават на пачак не самых прэстыжных цыгарэт.

**Георгій СЫСОЙ,**
**прэс-служба УУС**
**Гродзенскага аблвыканкама.**

# Куды зніклі норкі?..

Для сённяшніх злодзеяў нават цагляныя сцены не перашкода. Гэта лішні раз даказалі рабаўнікі, якія аблюбавалі звераферму паблізу вёскі Латвічы Баранавіцкага раёна.

Невядомыя ноччу праламалі сценку ў складское памяшканне зверафермы калгаса «Латвічскі» і выкралі скуркі норкі. Як падлічылі ў гаспадарцы, урон нанесены калгасу складае 549 мільёнаў рублёў.

Яшчэ адна фермерская гаспадарка пацярпела пасля набегу злачынцаў паблізу вёскі Паддубцы Аршанскага раёна. Невядомыя ўмудрыліся знесці з належачай гаспадарцы электралініі 2800 метраў алюмініевага праваду на 216 мільёнаў рублёў.

**Ігар ГРЫШЫН.**

# Не разлічылі

Да прыватнага таксіста ў Лунінцы падышлі двое падвыпіўшых хлопцаў, і папрасілі падвезці да адной з вёсак недалёка ад райцэнтра. За паслугу паабяцалі добра заплаціць.

Адзін адразу ж сеў на задняе сядзенне, а другі наперадзе, побач з таксістам. Калі выехалі за горад, той, што сядзеў ззаду, дастаў з курткі шнурок, зрабіў пятлю і накінуў вадзіцелю на шыю, а яго напарнік ухапіў таксіста за рукі, але бандыты пралічыліся. Вадзіцель аказаўся моцным мужыком. Яму ўдалося вырвацца з машыны.

А далей усё было проста. Таксіст падняў крык, а побач праязджаў міліцэйскі патруль. Злачынцы кінуліся ўцякаць, але іх злавілі.

Таксіст застаўся пры «Audi-80», а злачынцаў чакае турма.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

***ПАВЕДАМЛЕННЕ***

## АБ ІНДЭКСЕ ЦЭН ВЫТВОРЦАЎ НА ПРАМЫСЛОВУЮ ПРАДУКЦЫЮ ВЫТВОРЧА-ТЭХНІЧНАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ ЗА КАСТРЫЧНІК 1998 ГОДА

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў кастрычніку 1998 года ў параўнанні з вераснем 1998 года індэкс цэн вытворцаў на прамысловую прадукцыю вытворча-тэхнічнага прызначэння склаў 113,1 працэнта, са снежнем 1997 года — 172,2 працэнта, са снежнем 1996 года — 336,1 працэнта.

***Спортэкспрэс***

# Да п'едэстала не дабраліся

У нядзелю фінскі горад Лахці развітаўся з чэмпіянатам свету па цяжкай атлетыцы, на якім была зафіксавана рэкордная колькасць краін-удзельніц — 71. Праўда, спартсменаў з'ехалася крыху менш, чым на сусветнае першынство-96 у Кітай, дзе паспрабавалі шчасця на памосце аж 433 штангісты. У Фінляндыі выступіў ужо 391 цяжкаатлет, што зусім зразумела: колькасць вагавых катэгорый у мужчын скарочана з 10 да 8, а ў жанчын — з 9 да 7.

У чатырох намінацыях выступілі нашы мужчыны. Вынікі можна назваць «сціплымі», бо ні адзін з беларускіх волатаў нават не наблізіўся да п'едэстала гонару. Найбольш удалымі можна лічыць выступленні новапалачан Сяргея Лаўрэнава (вагавая катэгорыя да 69 кг) і Уладзіміра Емяльянава (105 кг), якія аказаліся ў выніковых пратаколах на 7-й пазіцыі. Прадстаўнік Салігорска Павел Бузук (94 кг) і мінчанін Алег Клічко заваявалі 11-е месца.

На памосце ў Лахці было ўстаноўлена 8 сусветных рэкордаў. Найбольш удала выступілі штангісты Балгарыі, Кітая і Турцыі. Ніводнага рэкардсмена на гэты раз не было ў зборнай Расіі. Праўда, расіяне ўсё ж змаглі заваяваць 2 залатыя, 2 сярэбраныя і 6 бронзавых медалёў.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# Мінскі СКА зноў прайграў, але шанцы застаюцца

Гандбалісты Мінскага спартыўнага клуба арміі правялі свой другі матч у групавым турніры Лігі чэмпіёнаў. Пасля буйнога дамашняга пройгрышу ад «зорнай» «Барселоны» (17:30) падначаленыя Спартака Мірановіча ўступілі на выездзе швейцарскаму «Вінтэртуру» — 21:28. У гэты ж час іспанцы ўпэўнена перайгралі ў родных сценах запарожскі ЗТР — 27:17 і ўзначалілі турнірную табліцу групы «В». Наступны тур пройдзе 5-6 снежня. Сустракаюцца: «Вінтэртур»—»Барселона», СКА—ЗТР. Каб захаваць шанцы на 2-е месца ў групе, якое дае права прайсці ў далейшы этап Лігі чэмпіёнаў, армейцам абавязкова трэба выйграць ва ўкраінскіх гандбалістаў, прычым з як мага большым разрывам, бо дома запарожцы, як правіла, не надта гасцінныя.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

***Пытальнік***

# «ВЫШЛІ МНЕ, МАМА, У РАСІЮ ПЕРАВОД...»

## Чаму ў «Белпошты» ўзнік востры дэфіцыт расійскіх грошай?



**Зараз шмат гаворыцца і пішацца пра Саюз Беларусі з Расіяй. Але гэта, відаць, усё толькі на словах і паперы. У рэальным жыцці, на жаль, атрымліваецца наадварот.**

**Мой сваяк жыве ў Смаленскай вобласці. Як ён піша, нялёгка яму даводзіцца. Вырашыла дапамагчы: паслаць трохі грошай. Але ў аддзяленні сувязі мне сказалі, што паштовыя пераводы ў Расію забаронены. Не прынялі ў мяне грашовы перавод і ў Туркменістан, дзе жыве (дарэчы, вельмі бедна) мая родная сястра.**

**Паважаная рэдакцыя, адкажыце, калі ласка, у сувязі з чым прыняты такія строгія загады і калі можна будзе, як і раней, пасылаць грашовы перавод куды хочаш?**

**З павагай**

**Галіна Міндалёва, г. Мінск.**

**З аналагічным пытаннем звярнулася ў «Звязду» і Ала Пятроўна Захарэвіч з в. Беразіно Докшыцкага раёна. А ўся справа ў тым, што ў Расіі вучыцца яе сын. І ў маці баліць за яго душа, што на адну стыпендыю там зараз не пражывеш, а грашовы перавод на пошце не прымаюць.**

**Вось як па просьбе рэдакцыі гэту няпростую сітуацыю растлумачыў намеснік міністра сувязі М. Малочка:**

— Існуючая сістэма абмену паштовымі грашовымі пераводамі з Расійскай Федэрацыяй, staноўчае сальда, якое пастаянна падтрымліваецца за кошт перавышэння сумы ўваходных пераводаў над выходнымі, давала магчымасць весці разлікі з паштовай адміністрацыяй Расіі за адпраўляемыя з Беларусі паштовыя пераводы. Аднак у сувязі з фінансавым крызісам у Расійскай Федэрацыі сітуацыя па іх абмену з верасня г. г. стала мяняцца, рэзка скарацілася паступленне з Расіі паштовых пераводаў, у выніку чаго сальда стала адмоўным.

Натуральна, у Рэспубліканскага аб'яднання «Белпошта» ўзнікла вострая неабходнасць у набыцці расійскіх рублёў для ўзаемаразлікаў з паштовай адміністрацыяй Расіі. Але паколькі заяўка «Белпошты» на куплю расійскіх рублёў з боку Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь не была задаволена ў сувязі з абмежаваным прапанаваннем валюты на Міжбанкаўскай валютнай біржы, то было прынята рашэнне часова спыніць прыём паштовых пераводаў ад фізічных асоб у адрас Расіі (за выключэннем пераводаў па сацыяльна значных плацяжах — пенсіі, аліменты і інш.). Такім чынам, Міністэрству сувязі ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ад 25 лістапада 1993 года № 801/26 «Аб мерах па ўпарадкаванню ўзаемаразлікаў паміж Рэспублікай Беларусь і рэспублікамі былога Саюза ССР па паштовых пераводах» дадзена права рэгулявання прыёму паштовых грашовых пераводаў у тую ці іншую дзяржаву.

Праўда, варта зазначыць, улічваючы значнасць паслугі па перасылцы грашовых пераводаў, просьбы насельніцтва, пазбаўленага магчымасці адправіць дапамогу блізкім людзям, з боку нашага міністэрства цяпер прымаюцца меры па першачарговай куплі Рэспубліканскім аб'яднаннем «Белпошта» расійскіх рублёў на таргах Міжбанкаўскай валютнай біржы для ажыццяўлення разлікаў з Паштовай адміністрацыяй Расіі па выходных паштовых пераводах.

Што датычыць пытання перасылкі паштовых грашовых пераводаў у Туркменістан, то хачу паведаміць, што ў адпаведнасці з падпісаным пагадненнем паміж паштовымі адміністрацыямі Рэспублікі Туркменістан і Рэспублікі Беларусь ажыццяўляецца абмен паштовымі грашовымі пераводамі. Але гранічная сума аднаго такога пераводу, адпраўляемага ў гэту краіну, абмяжоўваецца 250 тысячамі беларускіх рублёў.

**Падрыхтаваў да друку**
**Іван БРАЛКА.**

**Хочацца заплюшчыць вочы, каб не бачыць і не ведаць апошніх спраў гэтага стагоддзя. У яго засталося няшмат часу, таму спяшаецца яно пакінуць аб сабе доўгую памяць у людзей.**



## Уся справа ў... сумiраванні

*Працую галоўным слесарам у аўтатрактарным парку калгаса, праводжу ўсе работы слесара і, апроч таго, вулканізую камеры, займаюся спайкай радыятараў. Ці не маглі б вы паведаміць, якім павінен быць мой водпуск?*

**З павагай**
**Р.В. Клімовіч,**
*Браслаўскі раён*

На жаль, з-за таго, што ў пісьме ў рэдакцыю вы не паведамілі поўных звестак аб сабе і сваёй рабоце, даць дакладны адказ на пытанне даволі складана. Тым не менш, паспрабуем разабрацца. Так, паводле заканадаўства, калі слесар робіць рамонт аўтамабіляў, якія працуюць на газе, ён мае права на 6 дадатковых дзён, а калі аўтамабіляў, якія працуюць на этыліраваным бензіне, — на 12 дадатковых дзён водпуску. Асобна вылучаецца вулканізатаршчык: пры ўмове, што на гарачых вулканізацыйных работах ён заняты не менш чым палову рабочага часу, ён мае права на 6 дадатковых дзён адпачынку.

Цяпер (улічыўшы, што пры сумiраванні для ўсіх грамадзян краіны асноўны водпуск складае 12 працоўных дзён) падлічым. Напрыклад, калі вы рамантуеце аўтамабілі на газе і адначасова не менш чым палову працоўнага дня заняты вулканізацыяй, то агульная працягласць дадатковага водпуску складае 12, а ўвесь водпуск, адпаведна, 24 працоўныя дні. Калі вы рамантуеце аўтамабілі на бензіне і не менш чым палову працоўнага дня займаецеся вулканізацыяй, то фармальна ваш дадатковы водпуск павінен складаць 18, а агульны — 30 працоўных дзён. Аднак, паводле цяперашняга заканадаўства, водпускі сумiруюцца толькі ў межах 12 дзён. Такім чынам і ў гэтым выпадку ваш адпачынак будзе мець працягласць 24 працоўныя дні — 12 дзён асноўнага плюс 12 дзён дадатковага водпуску.

## Старую ванну ЖЭС вам ужо не заменіць

*Праз колькі гадоў жыллёва-эксплуатацыйныя службы павінны замяняць у кватэрах ванны, ракавіны або унітазы? За чый кошт робяць такія замены ў дзяржаўных і прыватызаваных кватэрах?*

**Марыя БЯЛЯЕВА,**
*г. Мінск*

Кансультант па прыватызацыі Мінжылкамунгаса Леанід Грэскі сцвярджае, што замену ваннаў, ракавінаў або унітазаў работнікі ЖЭСаў павінны рабіць пры капітальным рамонце, калі гэта прадугледжана праектна-каштарыснай дакументацыяй.

Увогуле тэрмін службы ваннаў і ракавінаў складае каля 40 гадоў. Замена ваннаў, ракавінаў і унітазаў ажыццяўляецца ЖЭСамі ў межах капітальнага рамонту дома для ўсіх жыхароў бязвыплатна, нягледзячы на тое, прыватызавана кватэра або не. Аднак на сённяшні дзень, як заўважыў Леанід Грыгор'евіч, ні ванны, ні ракавіны ўжо не мяняюцца.

Зараз пры складанні праектна-каштарыснай дакументацыі капітальнага рамонту такія замены не прадугледжваюцца, бо ў ЖЭСаў на гэта няма грошай. Сёння жыхар як прыватызаванай, так і дзяржаўнай кватэры можа замяніць ванну або унітаз толькі за ўласныя грошы.

*АСАБІСТАЕ*

# СПРОБА ЗБЕГЧЫ

Колькі часу ў галаве паўтараецца адзін і той жа сон: падымаюся на самы высокі паверх новага дома, але лесвіца раптам ператвараецца ў танюткую вяроўку ў маёй руцэ, якую хістае моцны вецер. Людзі, што ішлі за мною, пападалі ў прорву. Ці прытрымалася я, ці трапіла наверх — невядома. Чамусьці сны заўсёды абрываюцца на самым драматычным моманце. Сябры, якіх вельмі люблю, кажуць: у сне чалавек болей належыць той сіле, якая спраўляе баль ноччу.

Толькі чамусьці начныя кашмары лезуць у галаву днём. І тое праўда, падстаў для кашмараў зараз шмат, і яны набіраюцца моцы незалежна ад таго, святло за акном ці не. Так, на мяжы стагоддзяў заўсёды панавала смутай. Проста кашмары прыходзяць не звонку. Яны нараджаюцца ў душы, атручваючы яе адчаем.

Калі колькасць адчаю пераўзыходзіць колькасць надзей, з'яўляецца адзіная думка — бегчы, ратаваць душу, каб не страціць яе канчаткова. Куды? Хлусяць тыя, хто кажа, што ад сябе не збяжыш. Ёсць месцы, якія не прапускаюць разам з чалавекам чарнату, што схіляе яго да зямлі.

Полацк. Сюды мяне прывялі самыя што ні ёсць свецкія справы. Але як можна было пакінуць гэты горад, не пакланіўшыся святой Ефрасінні? На першы погляд здаецца выпадковай магчымасць трапіць у мясціны, дзе чалавек быў набліжаны да неба. На самай справе такую магчымасць мы атрымліваем па волі нейкай магутнай рукі, а таксама права — скарыстаць яе ці не. Застаўшыся позна ўвечары ў невядомым горадзе, я рушыла да манастыра, заснаванага апякункай Беларусі, ні на хвіліну не сумняваючыся ў тым, што яна ахоўвае мой шлях і не адмовіць у прытулку.

Не адмовілі і сёстры, якія цяпер жывуць у адноўленым Свята-Ефрасіннеўскім манастыры. У невялічкім пакойчыку для паломнікаў былі занятыя амаль усе двухпавярховыя ложкі. Месца для мяне нібыта спецыяльна нехта захаваў.

Сон падкаціўся неўпрыкмет, адразу знішчыў трывогу папярэдніх бяссонніц і дзённых турбот. Новы дзень гэтак жа ціхенька падышоў да дзвярэй пакоя для гасцей. Апошнія недадуманыя думкі, якія, быццам назойлівыя чмялі, гулі звечара, болей не джаляць. Як успомніць, пра што яны былі? Так-так, нешта пра звычайную мітусню, згубленую чужую кнігу і парэзаную руку. Трэба сёння іх дадумаць. Рука не баліць, кніга, кніга... Абразку насупраць, відаць, не падабаюцца мае думкі. Заўважыла: калі доўга-доўга ўглядацца ў ікону, страчваецца арыентацыя ў часе. Нечакана разумееш: навошта наводзіць парадак у думках, якія ўвогуле непатрэбны? Істотна толькі тое, што мы хочам імі прыкрыць, — ізноў ад сябе.

Кажуць, калі чалавек доўга і ўпарта копіць грахі, яго анёл-ахоўнік адыходзіць і плача ўбаку ад таго, што не можа дапамагчы. Нездарма часам здаецца, што з самых неверагодных сітуацый выцягвае нейкая сіла. А бывае, што ў адказны момант яе няма, тады кажуць: усявышні адвярнуўся. Як адчуць яго волю? Дакладна, кніга не падказала б. Тут была б лішняй нават самая цікавая кніжка, не выпадкова яна згубілася.

Цесна. Людзей у царкве быццам няшмат, але чамусьці цесна. Таму што навокал твары людзей, якія далёка, але праследуюць мяне, пасяліўшыся ў падсвядомасці. Зараз іх аб'ядноўвае жаданне навучыць мяне разумна жыць на свеце. Яны гавораць, што ў жорнах жыцця мы — быццам перамолатыя зярняты, сярод якіх ужо наўрад ці пачуеш шчыры голас. А ён і не патрэбны — людзі імкнуцца быць падманутымі, бо інакш прыйдзецца шукаць прыклады дасканаласці, а гэта нашмат цяжэй, чым спісаць свае нястачы на хлусню. Не магу зразумець нябачных дарадцаў. Цяпер, тут. Бо не магу паверыць, што сэнс жыцця зводзіцца да куплі і продажу. Ці то тавараў, ці то чалавечых вартасцяў.

Але ёсць голас мацнейшы. Ён не крычыць і нічога не даказвае. Ён проста ёсць. Ёсць выбар — слухаць яго, ці не. Але гэты выбар нецяжкі. Можна слухаць. Затое, калі слухаеш, кожны раз робіш новы выбар: ісці за ім ці саступаць убок.

На ложку насупраць дзве дзяўчыны гаварылі пра рэальнасць, у якой мала месца чыстай юнай душы. Замест любові блізкіх прыходзіцца амаль штодня акунацца ў брудныя разборкі паміж імі. Замест таго, каб радавацца дзіцяці, бацькі падлічваюць, у колькі яно ім абыходзіцца. Абмяркоўваць нешта дрэннае стала амаль што традыцыяй. А можа гэта проста праявы вайны супраць чалавека, якая павольна прыстасоўвае яго да віртуальнай рэальнасці? Бо не назавеш натуральным свет, у якім прыходзіцца існаваць. І дзяўчаты гэтыя зрабілі спробу збегчы. Хаця б ненадоўга, на выхадныя. Хаця б глынуць гэтага адвечнага спакою.

Падчас малебна ля святой было шмат людзей. Жывымі галасамі звярталіся да жывой, услаўлялі і прасілі. Калі чалавек адчувае сваю бездапаможнасць, яму толькі і застаецца прасіць. Ён належыць сваёй цывілізацыі, але так і не разумее, чаму гэтая магутная цывілізацыя такая бездапаможная падчас стыхійных бедстваў.

А вось жанчыны ў чорным зусім не адчуваюць сябе бездапаможнымі. Падчас службы адна манашка павінна была чытаць псалтыр. У гэты момант пагасла святло ў храме. Але яе голас не абарваўся. Тут жа хуценька ёй паднеслі запаленую свечку. Манашка павольна адхіліла яе і працягвала чытаць у поўнай цемры. Аказваецца, вонкавае святло можна замяніць унутраным.

У тым свеце, але не ў нашым, могуць са мной не пагадзіцца. Не ў свеце справа. Можна доўга і засяроджана скардзіцца на недасканалае жыццё. Каб заслужыць дасканалае, трэба быць дасканалым чалавекам. Зрабіць хоць крок да дасканаласці — значыць зрабіць спробу прымірыцца і самой з сабою, і са светам.

Вось і вайна скончылася. Вайна думак і розных шляхоў уласнага жыцця, якія я прывезла з сабою. Праўда, за варотамі яны адразу ж пачнуць вабіць кожны ў свой бок. Тады ўжо збегчы ад іх не атрымаецца. Прыйдзецца вызначацца, што патрэбна, а што не. Гэта так проста, што няма нічога складаней...

**Ларыса ЦІМОШЫК.**



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

# «ВЫЙГРАЕ ТОЙ, ХТО ДУМАЕ НАПЕРАД...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Гэта найперш 2700 га ўсёй зямлі і 231 мільярд рублёў таварнай прадукцыі, якія, у прыватнасці, плануюць атрымаць тут за сёлетні год. Гэта высокатэхналагічная цяплічная вытворчасць, з якой амаль круглы год, за невялікім перапынкам, здымаюць агуркі і памідоры (пад цяплічныя агуркі і памідоры адведзена па 6 га зямлі, вырошчваюцца яны па ўжо добра вядомай у рэспубліцы галандскай тэхналогіі, г. зн. без удзелу непасрэдна зямлі, глебы, а праз сілкаванне кожнай расліны загадзя прыгатаванымі растворамі, у якіх знаходзіцца ўвесь набор пажыўных рэчываў, неабходных для нармальнага росту і развіцця раслін, — дакладна збалансаваны і гэтак жа дакладна падаваемы да іх згодна з іх «пажаданнямі» і камп'ютэрнай праграмай).

Аграфірма «Ждановічы» — гэта таксама тры вялікія фермы буйной рагатай жывёлы з надоямі ад кожнай каровы амаль па 5 тысяч кілаграмаў малака за год (прыгадаем тут нашы звычайныя для абсалютнай большасці гаспадарак 2000 кілаграмаў), прычым малака, якое адпавядае самым высокім санітарна-гігіенічным і спажывецкім патрабаванням і адзінае ў Мінскім раёне прызначана спецыяльна для дзіцячага харчавання. Гэта таксама ўраджайнасць бульбы па 256 цэнтнераў з га, пшаніцы — па 45, цукровых буракоў — па 400 (прычым усе гэтыя культуры паспрабавалі вырошчваць сёлета ўпершыню). Гэта і адпаведная рэнтабельнасць: 9,5 працэнта па малаку, 35,8 — па збожжу, 42 — па агародніне, 35 — па цукровых бураках і 22,6 працэнта ў цэлым па гаспадарцы (тут жа назавём і 0,4 працэнта рэнтабельнасці па мясу — паказчык, які, вядома ж, абсалютна не стасуецца з іншымі паказчыкамі, хоць прыбаўленне жывёлы ў вазе ў гаспадарцы і вельмі высокае (не менш за 650 грамаў у суткі на кожную галаву), аднак паказчык рэнтабельнасці па мясу істотна «карэкціруецца» адпаведнай цэнавай палітыкай, праводзімай у рэспубліцы). Аграгандлёвая фірма «Ждановічы» — гэта яшчэ і 5 уласных магазінаў, і рознага профілю сумесныя прадпрыемствы (найбольш вядомае з іх — СП «Адзіполь» па вытворчасці тэнаў); і, нарэшце, даволі высокая для сельскагаспадарчай вытворчасці сярэдняя заработная плата — звыш 7 мільёнаў рублёў плюс дапамога да водпуску, плюс агародніна па сабекошту, плюс значныя гандлёвыя скідкі на цукар, муку і іншыя прадукты харчавання (вядома ж, для сваіх работнікаў). А яшчэ — сваё ўласнае жыллёвае будаўніцтва і да апошняга часу — бясплатныя кватэры для тых, хто меў патрэбу.

Вось такая аграгандлёвая фірма з такімі, на жаль, вельмі рэдкімі для нашай сельскагаспадарчай вытворчасці паказчыкамі і такімі істотнымі матэрыяльнымі дабротамі для людзей існуе пад Мінскам. Што спрыяе ўсяму гэтаму? Можа, менавіта суседства са сталіцай?

Ды не, генеральнаму дырэктару фірмы Міхаілу Дражыну блізкасць вялікага горада прыносіць нямала клопату. «Усе ж нашы дзве тысячы гектараў цалкам праглядваюцца з вокнаў сталічных шматпавярховак», — гаворыць ён... Карацей, для нашага не надта багатага гараджаніна гэта гаспадарка пад бокам — вялікая спакуса.

Паказчыкам і, адпаведна, матэрыяльным дабротам спрыяе (ці дакладней — паспрыяла) настойлівасць і тэхналагічная адукаванасць самога генеральнага і яго намеснікаў, спецыялістаў гаспадаркі, іх, груба кажучы, нюх на новае, самае сучаснае ў свеце (па словах аднаго са спецыялістаў, генеральны ў пошуках новых сельскагаспадарчых тэхналогій і агратэхнічных метадаў вядзення вытворчасці аб'ездзіў паўсвету), уменне прадбачыць сітуацыю («у сельскай гаспадарцы выйграе той, хто думае на год і нават на 3—5 гадоў наперад», — падкрэсліў падчас гутаркі Міхаіл Дражын) і, магчыма, у пэўнай ступені шанцаванне і тая ж блізкасць да сталіцы. Зрэшты, і шанцуе, як правіла, настойлівым і прадпрымальным.

А ўтворана аграгандлёвая фірма «Ждановічы» тры гады таму на месцы ранейшага аднайменнага ж саўгаса, які не надта каб выдзяляўся на фоне іншых гаспадарак. Міхаіл Дражын, які прыйшоў на месца генеральнага, адразу ж ухапіўся за патрэбнае, як выявілася цяпер, звяно — галандскія тэхналогіі вырошчвання агародніны (у гаспадарцы гэтымі тэхналогіямі пачалі займацца першымі ў рэспубліцы). Сёння прадукцыя АГФ «Ждановічы» (у першую чаргу цяплічная, якая і прыносіць гаспадарцы найбольшы даход) займае важкую долю на мінскім рынку, фірма цалкам спраўляецца з дзяржаўным заказам, акрамя таго, экспартуе ў Маскву і Санкт-Пецярбург, Прыбалтыку.

У гаспадарцы апошнім часам да існуючых цяпліц па вырошчванню агуркоў і памідораў дабавілася асобная расадная цяпліца — адасабленне расады абяцае немалую эканомію энергарэсурсаў. Пры гэтым тут таксама пачынаюць вырошчваць расаду ў спецыяльных касетах, што дазволіць абыходзіцца мінімальнымі пашкоджаннямі раслін пры іх перасадцы, значна павысіць іх выжывальнасць. Побач з агратэхнічнымі праектамі суседнічаюць і чыста тэхнічныя. Так, у гаспадарцы плануюць паставіць у цяпліцах аўтаномныя кацельні, што дазволіць адмовіцца ад знешняй, чужой і дарагой цеплавой энергіі, у выніку значна скараціць выдаткі на яе і знізіць сабекошт цяплічнай прадукцыі. А значыць — і яе цану для спажыўца. Чакае далейшага развіцця і малочны накірунак.

Увогуле ж у гаспадарцы замахнуліся на тое, каб зрабіць на базе сваёй вытворчасці ўзорнапаказальную гаспадарку міністэрства і каб тут, на яе вопыце, вучыліся кадры з усёй рэспублікі. Тэхналагічныя веды — гэта галоўнае, што патрэбна сёння кожнаму сельскагаспадарчаму працаўніку і асабліва спецыялістам, падкрэсліў генеральны дырэктар.

Зрэшты, генеральнаму дырэктару крыўдна — крыўдна за беларускага селяніна і ўжо за іншую і вельмі традыцыйную для нас сельскагаспадарчую культуру — бульбу, якой трэба збіраць па 350—400 цэнтнераў. Не збіраем, аднак, і ўвогуле вельмі далёкія ад гэтага... У «Ждановічах» жа збіраюцца даказаць, што гэта задача цалкам па сілах, ужо ў будучым годзе.

А ўвогуле ўсе традыцыйныя віды сельскагаспадарчай прадукцыі для рэспублікі, перакананы генеральны дырэктар, — рэнтабельныя. Хіба акрамя тых, на рэнтабельнасць якіх уплывае адпаведная дзяржаўная цэнавая палітыка. Карацей, можна і трэба развіваць мясамалочную вытворчасць, але для гэтага разам з тым ствараць добрую айчынную кармавую базу. Трэба адраджаць тую ж бульбу, але вырошчваць яе па ўсіх правілах перадавой сусветнай агратэхнікі. Добры даход могуць прынесці цукровыя буракі, лён, збожжавыя культуры і, вядома ж, ранняя агародніна.

Ужо зразумела, упор належыць рабіць на перадавую агратэхніку. Аднак ці можа выратаваць сённяшнюю сельскагаспадарчую вытворчасць толькі голая агратэхніка, калі мы будзем мець у наяўнасці, па сутнасці, дыскрымінацыйную цэнавую палітыку ў адносінах да асобных відаў прадукцыі (нават такая моцная гаспадарка, як «Ждановічы», і тая атрымала амаль нулявы вынік пры вытворчасці мяса), калі ў краіне будуць дзейнічаць жорсткія адміністрацыйныя абмежаванні на свабоднае распараджэнне выпрабленай прадукцыяй (падчас гутаркі Міхаіл Дражын прывёў свежы прыклад з аднаго з калгасаў Магілёўскай вобласці: апошні поўнасцю выканаў дзяржаўны заказ і рэшткі прадукцыі хацеў прадаць у Расію, але ў гаспадарку адразу ж наведаліся дзяржаўныя кантралёры адносна абароны айчыннага рынку), калі будуць у сіле іншыя адміністрацыйныя ўказанні — накшталт таго, што сеяць, колькі, як і калі...

Карацей, рашаючае слова павінна быць за эканомікай. А яшчэ — трэба добра вучыць ёй самі ж сельскагаспадарчыя кадры. Трэба таксама рэфарміраваць гаспадаркі, пры гэтым не разганяючы калгасы. І прывучаць народ да ўласнасці. Трэба таксама падтрымліваць тых, хто расце і развіваецца, а не тых, хто падае.

У дырэктарскае крэда лагічна ўкладваецца і наступная аксіёма: трэба, каб спецыялісты, працаўнікі вёскі (і асабліва новыя кіраўнікі і спецыялісты, якія толькі прыходзяць у тую або іншую гаспадарку) мелі добрую зарплату, а не такую, якую маюць у абсалютнай большасці гаспадарак і якую, да таго ж, нясвоечасова атрымліваюць. Тады можна па-сапраўднаму з іх і спытаць. Іначай яны больш будуць думаць, як утрымліваць сям'ю, і пры ўсякім зручным выпадку, груба кажучы, — красці (што, дарэчы, нярэдка і маем). Тут жа варта дадаць: у «Ждановічах» не цырымоняцца з гультаямі і тым больш — п'яніцамі: у мінулым годзе 200 чалавек прынялі і 200 ж звольнілі. Аднак тут, скажам так, маюць поўнае маральнае права на падобную суровасць. Ды і жадаючых уладкавацца ў гаспадарку — чарга.

Аднак як бы добра ні было ў «Ждановічах», адна гаспадарка пагоды не робіць, і гэта тут таксама разумеюць. Зрэшты, не адна. Міхаіл Дражын назваў яшчэ некалькі гаспадарак рэспублікі, у якіх, па яго словах, ідзе нармальны працэс: «Сноў» у Нясвіжскім раёне, «Кастрычнік» у Гродзенскай вобласці, «Астрамечава» ў Брэсцкім раёне, Першая мінская птушкафабрыка... На жаль, спіс абрываецца вельмі хутка. І, на жаль, менавіта на гэтым закончылася наша гутарка з генеральным дырэктарам АГФ «Ждановічы», у якога за будучыню сельскай гаспадаркі душа баліць...

**Іван БАРАНОЎСКІ.**




# НАПЕРАД, МУХТАР!



**Ён адважна пераскочыў ахопленую полымем перашкоду, беспамылкова прайшоў у цемры па вузенькіх прыступках, узняўся на вышыню па драбіне, кінуўся на выявргаючы агонь кулямёт, падмяў пад сябе мажнога кулямётчыка і некалькі разоў пераможна гаўкнуў, падаючы знак свайму гаспадару.**

А гаспадар падышоў і стрымана пахваліў: «Малайчына, Мухтар!» — І ўзнагародзіў сабаку смачным кавалачкам.

Усё выглядала неверагодна: сабакі па камандах маладых воінаў-інструктараў паказвалі такія цуды, што перад імі адразу неяк пацьмянелі цыркавыя нумары самых вядомых дрэсіроўшчыкаў. Але параўнанне з цыркам тут зусім недарэчнае, бо месца, дзе ўсё гэта адбывалася, надзвычай сур'ёзнае — адно з вучэбных падраздзяленняў Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. А дрэсіраваных сабак, зусім не дзеля забавы навучаных ісці праз полымя і кулямётны агонь, можна параўнаць у пэўным сэнсе з той жа самай зброяй у руках абаронцаў.

Сабака-сябар, сабака-зброя — так скарочана гучыць галоўны прынцып, па якім працуюць тут ваенныя спецыялісты. Кіналагічны цэнтр Міністэрства абароны быў створаны на базе школы малодшых спецыялістаў службовай сабакагадоўлі. У лістападзе ён адзначыў сваё пяцігоддзе. Сёння ён здольны весці падрыхтоўку па самых розных відах.

Чатырохногія пошукавікі беспамылкова знаходзяць зброю, наркотыкі, выбуховыя рэчывы. На палігоне ў добрую сотню квадратных метраў, дзе мне прапанавалі паглядзець работу такога пошукавіка, сабаку спатрэбілася ўсяго некалькі хвілін, каб знайсці закапаны ў пясок маленькі пакецік з трыма грамамі тратылу.

На падрыхтоўку такіх сабак у Цэнтры адводзяць 3-4 месяцы, а потым на строгіх экзаменах вызначаюць якасць ведаў і салдата-інструктара, і яго чатырохногага сябра. Вучоба ў гэтых сценах — няспынны працэс, арганізаваны з улікам таго, што выпускнікоў Цэнтра чакаюць практычна ва ўсіх баявых, вучэбных і гаспадарчых падраздзяленнях Узброеных Сіл Беларусі. Вялікія пляцоўкі з вальерамі, выдатна наладжаная ветэрынарная служба, асобная кухня для жывёл — дарэчы, хаця кухня і сабачая, але парадак і чысціня ў ёй такія, што пазайздросцяць многія нашы сталоўкі і кафэ. Харчаванне строга па вызначанаму рацыёну, каб сабака рос дужым, здольным пераносіць і любое надвор'е, і любыя фізічныя нагрузкі. Асаблівая ўвага патомству, якое з'яўляецца на свет у спецыяльным сабачым радзільным доме. Маленькія шчаняткі працягваюць род сваіх знакамітых бацькоў, на ашыйніках якіх блішчыць не адзін дзесятак медалёў за перамогу ў спаборніцтвах сярод службовых сабак.

Больш за 130 сабак, выхаваных у Цэнтры, прынялі ўдзел у 26 міжнародных і рэспубліканскіх выстаўках. Найбольш яскравая перамога атрымана сёлета ў Бельгіі на міжнародных спаборніцтвах па біятлону з сабакамі — там каманда Цэнтра заняла 3-е месца.

Ваенная служба — суровая. Мне падалося, што кінолагам служыць нават цяжэй, чым іншым вайсковым спецыялістам, бо на іх ляжыць адказнасць за жыццё і бяспеку вернага сябра. А гінуць гэтыя чатырохногія сябры, на жаль, усё ж такі часта, таму што навучаныя дакладна выконваць каманду, навучаныя аддана служыць чалавеку. У музеі кіналагічнага Цэнтра можна пазнаёміцца з цікавымі фактамі: побач з воінамі Савецкай Арміі на франтах Вялікай Айчыннай вайны неслі службу 60.000 спецыяльных сабак. Яны абясшкодзілі 4 мільёны мін, вывезлі з поля бою 680 тысяч параненых, дапамаглі размініраваць 303 населеныя пункты.

Сёння мы часта чуем, што там, дзе склалася надзвычайная сітуацыя, першымі ўступаюць у барацьбу за выратаванне людзей кінолагі з сабакамі. Магчыма, калі-небудзь іх супрацоўніцтва стане непатрэбным — на змену ім прыйдуць усёведныя і на ўсё здольныя робаты. А сёння (на свае вочы бачыў) у самых буйных міжнародных аэрапортах пасля прасвечвання багажу на гама-ўстаноўках і праслухоўвання ўседыяпазоннымі апаратамі, пасля шматразовай праверкі мытнікамі ўсіх дакументаў у справу ўступаюць службовыя сабакі. Апошняе слова за імі.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**








НА ЗДЫМКАХ:
- *Прагучала каманда «Зважай!»*
- *У гэтым падраздзяленні ўсё ў парадку, — зазначыў старшы інструктар гадавальніка Валерый ФЕДАРОВІЧ.*
- *Інструктар Інеса ЛЯЛЮХІНА са сваёй гадаванкай Баранесай.*
- *Перашкода не з ліку сур'ёзных.*

***ВАЧЫМА АСТРОЛАГА***

# УСЁ ЖЫЦЦЁ Ў ІМЕНІ ТВАІМ

**Магчыма, калі б газета, у свой час абвяшчаючы новую рубрыку «Суботнія гутаркі Веранікі Кудраўцавай», зазірнула ў гараскоп «нованароджанай», назва яе была б іншай. Выбар назвы — справа сур'ёзная і вельмі важная. Нездарма ж кажуць: як лодку назавеш, так яна і паплыве. «Плаванне» нашай суботняй рубрыкі, на жаль, адбываецца не без перашкод, а таму даводзіцца лавіраваць, уносіць карэктывы ў раней вызначаны курс. Але ж гэта — рубрыка. А калі чалавеку даць не яго імя? На якія цяжкасці тым самым ён будзе асуджаны? Так што без парад зорак у гэтым напрамку бацькам нельга і кроку ступіць. Непераканаўча? А што вы скажаце, прачытаўшы інтэрв'ю астролага Веранікі КУДРАЎЦАВАЙ?**

— Імя ўяўляе сабой сутнасць асобы, у ім закадзіравана індывідуальная праграма, якую павінен рэалізаваць чалавек на працягу жыцця. Фларэнскі казаў, што імя — гэта «найтанчэйшая плоць, з дапамогай якой абвяшчаецца духоўная сутнасць». У ім утрымліваецца інфармацыя, якой мэты будзе дасягаць асоба і якія сродкі яна будзе выкарыстоўваць пры гэтым. Імя чалавека аказвае ўздзеянне на яго здароўе, характар, адносіны з людзьмі. Але адна і тая ж праграма, закладзеная імем, кожным чалавекам рэалізуецца па-рознаму. Кожны чалавек нараджаецца ў тых бацькоў, у якіх павінен, і выбар імя дзіцяці дыктуецца сваімі законамі. Нашы продкі ўлічвалі гэта і не давалі «чужых» імён.

У старажытныя часы нават існавала методыка выбару імя. Ужо з канца трэцяга месяца цяжарнасці жанчыне належала размаўляць з дзіцем, звяртацца да яго, называючы па-рознаму. Дзіця абавязкова адрэагуе на сваё імя, і маці зразумее гэта.

**— Аднак названы метад усё ж складаны... Тым больш калі невядома, народзіцца сын ці дачка.**

— Сучасніцы могуць выкарыстаць больш просты варыянт, калі дзіця ўжо з'явіцца на свет. Маці трэба ціхенька называць імёны ў той час, калі малое знаходзіцца ў спакойным стане. На сваё імя яно адгукнецца: ці ўскрыкне, ці паварнецца, ці ўсміхнецца, ці адкрые вочы, калі спіць. Парайцеся з дзіцем, перш чым вызначаць яму індывідуальную праграму жыцця. Дарэчы, даць імя лепш за ўсё на дванаццаты дзень ад нараджэння. Хаця не позна гэта зрабіць у саракадзённы тэрмін пасля з'яўлення на свет. Іначай чалавек застаецца без абароны, і гэта, вядома ж, адбіваецца на яго лёсе адмоўным чынам.

Пажадана выбіраць імя, якое мае ўстойлівы нумералагічны код, тое, што добра зарэкамендавала сябе на радзіме чалавека. Жыць у Расіі і Беларусі Рычардам і Альфрэдам будзе складаней, чым іх цёзкам у Англіі ці Германіі. Самы ж просты спосаб вызначэння імя — зазірнуць у царкоўны каляндар. Вядома, не заўсёды бацькам падабаецца прапанаванае. Калі выбар вы спыняеце на варыянтах нават не набліжаных да тых, што вам параілі, даведайцеся хаця б іх пераклад. Падабаецца, напрыклад, некаму імя Клаўдзія. Сапраўды, прыгожае імя. Але перакладаецца яно як «кульгавая». Хіба вы жадаеце свайму дзіцяці пабольш цяжкасцяў, перашкод у жыцці? Даючы ж гэтае імя, якраз на іх вы і праграміруеце чалавека. Зрэшты, калі гараскоп дзіцяці сведчыць, што яго жыццё будзе залішне недынамічным, можа і варта ўнесці падобную карэкцыю.

Такіх імён, якія быццам бы не маюць права на існаванне, няшмат. Часцей бацькі свядома ўскладняюць жыццё дзіцяці проста таму, што не лічацца з яго гараскопам. У мяне быў выпадак, калі бацькі звярнуліся з просьбай падабраць імя для нованароджанага. Гараскоп дзіцяці сведчыў, што ў яго будуць сур'ёзныя праблемы са здароўем. Таму імем можна было падправіць гэтую «памылку». Аднак бацькам не спадабаліся прапанаваныя варыянты. На жаль, гараскоп спраўдзіўся — малое вельмі хваравітае.

**— Атрымліваецца, што імя можа выконваць як станоўчую, так і адмоўную функцыю?**

— Так, калі не ўлічваюцца аспекты, якія я назвала вышэй. Уявіце сабе, як будзе ісці па жыцці чалавек, духоўная сутнасць якога, напрыклад, творчасць, а імя праграміруе яго на дасягненні ў ваеннай справе? Наўрад ці асоба будзе адчуваць сябе камфортна. Таму і здараецца іншы раз, што чалавеку не падабаецца яго імя — з-за такога вось канфлікту. У такім выпадку лепшае, што можна зрабіць, — памяняць імя. Нават ужо ў свядомым узросце.

**— Іншы раз дзяцей называюць пад уплывам нейкіх абставінаў, той жа моды. У пачатку сямідзесятых гадоў многія дачок называлі Жаннамі, сёння падрастаюць Насці, Дашы і Паліны. А нядаўна прачытала, што ў Самары сям'я Васічкіных сына назвала Мэйсанам. Вось дык падарунак хлопчыку, а потым і яго дзецям!**

— Так, бацькі з самага пачатку запраграміравалі дзіця на цяжкасці ў адаптацыі, у адносінах з людзьмі. Але, відаць, такая яго аура, што прадвызначае падобныя эксперыменты. Называлі ж раней дачок Акцябрынамі, Домнамі. Тады была такая тэндэнцыя. А апошняя не ўзнікае так проста, з нічога. З'яўленне любой моды падрыхтавана.

Мода не ўплывае на імёны вялікіх людзей. Я заўважыла, што імёны асоб, якія пакінулі значны след у гісторыі, надзіва дакладна ўпісваюцца ў гараскоп. Тады становіцца зразумелым, як Настрадамус мог прадказаць дакладныя імёны тых, хто з'явіўся на сцэне жыцця праз шмат гадоў пасля. Разгледзім некалькі прыкладаў.

***Карл Маркс.*** У перакладзе са старажытнагерманскага імя Карл азначае «смелы». Згодна з гараскопам Маркса яго рэалізацыя павінна была адбывацца ў стварэнні ідэалогіі ўлады. Атрымліваецца, што асноўная сутнасць праграмы яго жыцця — смеласць у ідэалогіі ўлады. Імя, такім чынам, было падабрана вельмі ўдала, яно не замінала выкананню зададзенай праграмы.

***Пётр Машэраў.*** Імя перакладаецца як «скала», «каменная глыба». Планета Уран, якая адказвае за гэтае імя, сама па сабе мае непасрэднае дачыненне да рэфарматарства. Так што Пятру наканавана быць скалой, праводзячы рэфарматарскую палітыку. Для самарэалізацыі Машэрава імя падыходзіла ідэальна, садзейнічала найбольш поўнаму раскрыццю гэтага чалавека, яго індывідуальных якасцяў. Узгадваецца і іншая асоба — Пётр І.

Гараскоп ***Міхаіла Гарбачова*** сведчыць аб тым, што ён будзе рэалізоўваць сябе ў галіне палітыкі. Імя Міхаіл мае значэнне «роўны, падобны Богу». Планета імені ў гараскопе гэтага чалавека ўказвае на магчымае нечаканае вылучэнне ва ўладу. Але калі ён не пойдзе шляхам рэформаў, верагодна такое ж нечаканае звяржэнне. Што і здарылася, зрэшты.

Усе Барысы змагаюцца за славу. Месяц, што з'яўляецца адказным за гэтае імя, у гараскопе ***Ельцына*** знаходзіцца ў такім становішчы, якое ўказвае, што барацьба за славу будзе рэалізоўвацца ў сітуацыі змовы, дзе задзейнічана шмат людзей. Прычым моцны акцэнт робіцца на загадкавыя абставіны ў гэтай барацьбе, а таксама на здароўе прэзідэнта.

Імя ***Жырыноўскаг***а ідэальна садзейнічае выкананню яго праграмы — уладанне грашыма ва ўладзе. Уладзімір у перакладзе азначае «чалавек, які валодае светам». Для Жырыноўскага не настолькі важна быць лідэрам ва ўладзе, колькі карыстацца канкрэтнымі дабротамі, якія дае ўлада.

**— Думаю, што вышэйсказанае зацікавіць чытачоў. Але ж акрамя імя на асобу ўплывае і прозвішча, і імя па бацьку.**

— Тэма патрабуе асобнай размовы, а таму пагаворым пра гэта ў наступны раз.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

***Заявы на курсы навучання астралогіі ў Веранікі Кудраўцавай з указаннем нумара кантактнага тэлефона прымаюцца па адрасу: 220123, Мінск, а/с 24.***

# ГАСЦЁЎНЯ

**Крыху больш года таму Муслім Магамаеў і ягоная жонка Тамара Сіняўская былі ў «Гасцёўні» «Звязды» падчас невялікіх гастроляў у Беларусі. Уласна кажучы, гэта былі камерныя канцэрты ў Магілёве і Мінску. Муслім і Тамара адмаўляюцца ад выступленняў у вялікіх сталічных залах, каб «не падаць у вачах» сваёй публікі. Але не з-за дрэннай вакальнай формы, а з-за «мінусавой» фанаграмы. «Запомнілі нас усё ж такі з вялікімі аркестрамі, а зараз гэта вялікая праблема. Для гэтага патрэбны спонсары, а я іх не люблю. Праўда, можна вырашыць праблемы цэнамі на білеты, але мы супраць гэтага, бо не жадаем, каб нас «ліхам» паміналі слухачы», — не хавае сваіх прынцыпаў Муслім Магаметавіч.**

**Але гэта зусім не азначае, што знакамітая пара развіталася з паклоннікамі музычных талентаў Сіняўскай і Магамаева. Хаця яны і не замахваюцца сёння на вялікія сольныя канцэрты, але ж лічаць, што развітвацца з любімай публікай трэба пастунова, не грукаючы дзвярыма і не робячы гучных заяў.**

**Сёлета Муслім Магамаеў зноў стаў госцем музычнага рэтра-фестывалю ў Магілёве «Залаты шлягер». Знакаміты спявак сустрэўся тут з журналістамі, і карэспандэнт «Звязды» паспрабавала высветліць, ці адбыліся якія змены ў яго жыцці за мінулы год.**

## СЛАБАСЦІ МУСЛІМА МАГАМАЕВА: ЦЫГАРЭТЫ, КАТЛЕТЫ, ЗАСТОЛЛІ З СЯБРАМІ

— Не было ніякіх «выбухаў», якімі можна было б пахваліцца. Зараз у нашым узросце можна дзякаваць Богу, што няма нічога такога, што б скаланула. Магчыма, толькі абвал рубля, але ў нас з Тамарай зберажэнняў у банку не было.

***— А ці вялікая для вас розніца ў матэрыяльных і духоўных дабротах жыцця ранейшага і сённяшняга?***

— Духоўныя даброты даюцца чалавеку, напэўна, з нараджэння, наўрад ці яны мяняюцца ад абстаноўкі. Напрыклад, вялікі італьянскі спявак Джылі спяваў пры Мусаліні, а вялікі дырыжор Тасканіні не прымаў фашызму і вымушаны быў хавацца. Але ад гэтага яны не сталі менш вялікімі і духоўна высокімі. Я не магу сказаць, што я быў добрым савецкім чалавекам, бо ў мяне заўсёды былі вельмі вялікія прэтэнзіі, як, дарэчы, і зараз. Магчыма, нават горшыя, таму што сёння не дэмакратыя, а суцэльнае рабаванне і бандытызм.

Што датычыцца матэрыяльных даброт, то пры савецкай уладзе я, можна сказаць, быў жабраком, хаця і пра мяне казалі, што Магамаеў — мільянер. Я часта пазычаў грошы, бо мне не хапала. Выжывалі толькі трывалыя, якія былі ў стане спяваць па пяць канцэртаў кожны дзень. Самая вялікая стаўка за адно выступленне была, калі я дакладна памятаю, 22 рублі 50 капеек.

Не сакрэт, што мы «выкарасквалíся» толькі дзякуючы дадатковым грашам, якія філармоніі знаходзілі любымі шляхамі, каб мы толькі згадзіліся прыехаць і сваімі канцэртамі даць ім мільённыя прыбыткі. Звычайна нам плацілі 600—800 рублёў.

А за мяжой усё было яшчэ больш агідна: усе грошы адбіраліся. Колькі б табе імпрэсарыа ні плаціў — няхай хоць дзесяць тысяч долараў за канцэрт, ты ўсё роўна атрымліваў савецкую стаўку — 200 рублёў.

Усё змянілася з перабудовай. Цяпер «супер-зоркі» запрошваюць велізарныя грошы, ды і мы — таксама не маленькія. Нам хапае, каб жыць «серадняком»: дастаткова, каб не галадаць, а з іншага боку — без асаблівай раскошы.

***— А вас зараз не турбуе, як іншых «зорак», падатковая паліцыя?***

— Ды яны не могуць справіцца з тымі, хто «заграбае грошы рыдлёўкай». А што ўзяць з нас, хто зарабляе роўна столькі, каб нармальна жыць? Ніхто нас не выклікаў па гэтаму пытанню, а калі такое і адбудзецца, то ў мяне ўсё роўна дыпламатычны статус — саветнік па культуры пры пасольстве Азербайджана. У мяне два пашпарты — азербайджанскі і расійскі. Здаецца, што падатковая паліцыя не разабралася ўвогуле, грамадзянінам якой краіны я з'яўляюся.

***— Ці былі ў вас у савецкія часы сябры з ліку людзей пры вялікай уладзе?***

— Я заўсёды меў аднаго апекуна-заступніка, які мне сімпатызаваў. Гэта Гейдар Аліеў. Мы з Тамарай яго не забылі, калі ён апынуўся ў баку ад спраў. Зараз ён зноў вярнуўся і ставіцца з удзячнасцю да людзей, якія не пакінулі яго ў цяжкі час.

Менавіта Аліеў у свой час паскардзіўся Брэжневу, што мяне тармозяць, і толькі дзякуючы гэтаму я атрымаў вельмі маладым, у 31 год, званне народнага артыста СССР. Сярэдняя бюракратыя мяне ненавідзела, бо я грукаў дзвярыма і непачціва размаўляў.

***— А ці здаралася такое, што нейкія вашы песні не выходзілі па ідэалагічных меркаваннях?***

— Такога не было. Хаця я не выконваў песні, якія ўсхвалялі савецкую ўладу, па незразумелых для мяне прычынах урад мяне любіў. Я жартую, што ў іх быў нядрэнны густ. Мне ў той час практычна дазвалялася ўсё: мецъ доўгія валасы, і касцюмы-«бабачкі» мець ледзь не з брыльянтамі — усё, што ні ў якім разе не дазвалялася іншым. Мне нават дазвалялі пець на англійскай і італьянскай мовах, хаця заўсёды і прасілі на розных «агеньчыках» разам з замежнай спяваць адну савецкую песню. Былі прэтэнзіі па «Піцерскай» — маўляў, нахабны Магамаеў апашліў народную песню. Але потым народ заваліў мастацкі савет пісьмамі з захапленнямі, і прыйшлося ахоўнікам парадку ад мастацтва скарыцца.

***— Гледзячы на сучасную эстраду, ці не лічыце вы, што, можа, і зараз нядрэнна было б мець хоць нейкія мастацкія саветы?..***

— Зараз ніякіх мастацкіх саветаў не павінна быць, а павінна быць сумленне. Бо калі спонсар плаціць, то можна «раскруціць» і дрэнных спевакоў, і дрэнныя песні.

Я ніколі не меў сімпатыі да любых мастацкіх саветаў, бо гэта з-за іх шмат гадоў не выпускалі Лявонцьева, а Пугачову лічылі ледзь не вулічнай спявачкай.

***— Якія зносіны вы мелі з тысячамі сваіх паклонніц-«фанатак»?***

— «Фанаткі» бываюць розныя. Ёсць вар'яцкія, з якімі нельга было мець зносіны ўвогуле. А ёсць такія паклонніцы, якія дасюль прыносяць мне кветкі дадому і віншуюць з усімі святамі. Час ад часу мы з Тамарай запрашаем іх да сябе на чарку каньяку. Гэта нармальныя, адданыя жанчыны, у якіх зараз ёсць дзеці, а часам і ўнукі, і Тамара ставіцца да іх цудоўна. Ніякіх рамантычных інтрыг з паклонніцамі ў мяне ніколі не было. Артыст павінен трымаць іх на адлегласці.

***— Ці з'яўляецеся вы зараз прыхільнікам моднага свецкага ладу жыцця?***

— Я вельмі цяжка іду на кантакт з незнаёмымі людзьмі, а таму не люблю «тусоўкі». Мы з Тамарай вельмі рэдка наведваем добрыя музычныя вечарыны з сур'ёзнай публікай і музыкантамі. Напрыклад, калі прыязджае і нешта арганізоўвае Растраповіч. А як сёння прынята паўсюдна быць «генераламі на вяселлі» — гэтага я не люблю.

Увогуле, кожны, хто са мной знаёміцца, лічыць, што я вельмі горды і непрыступны. Гэта не так. Проста такі мой склад характару: я не панібрат, не магу адразу хлопнуць чалавека па плячы і сказаць: «О, як здарова, што мы пазнаёміліся!» У мяне так не атрымліваецца.

***— Але ж вы, безумоўна, чалавек моцны...***

— Моцны, калі захачу. Але ёсць і слабасці. Адна мая слабасць у тым, што я куру як разнік і нічога з сабой зрабіць не магу, хаця сіла волі ў мяне дакладна ёсць. Справа ў тым, што я ні ў чым не магу сабе адмовіць. Калі нешта хочацца, то я павінен сабе, любімаму, абавязкова зрабіць прыемнае. Хочацца напіцца — нап'юся. Хочацца гульнуць — тэлефаную Лёву Лешчанку, Валодзю Вінакуру ці Іосіфу Кабзону і запрашаю пасядзець у рэстаране з удзелам чалавек трыццаці-сарака. І кожны раз яны не вераць, што для гэтага няма ніякай канкрэтнай нагоды. Ну чаму людзі не могуць проста так сабрацца і выпіць? Так, мы бачымся на канцэртах, але ў мяне ёсць прынцып: адно з двух — ці пець, ці піць.

***— Вядома, што вы вельмі любіце свой музычны камп'ютэр. А ці ёсць у вас захапленні ўвогуле па-за музыкай?***

— Праз трыццаць з лішкам гадоў я ўспомніў, што калісьці ў юнацтве крыху маляваў — алоўкамі і акварэлямі. Зараз я ўпершыню стаў пісаць алеем. Шылаў мне дапамагае, паказвае некаторыя тэхнічныя сакрэты. Я напісаў некалькі партрэтаў — Вердзі, Рахманінава. Так што, мяркую, ад беспрацоўя мне не давядзецца пакутаваць.

***— Ці робіце вы што-небудзь з хатніх спраў — напрыклад, ці гатуеце ежу?***

— Калі Тамара з'язджае на гастролі, я добра спраўляюся сам, я магу гатаваць. Зараз можна, дзякуй Богу, набыць паўфабрыкаты і за некалькі хвілін атрымаць смачную ежу. Я — непераборлівы чалавек, што датычыцца ежы. Калі ёсць нейкая смаката — добра, а калі не — абмяжуюся бутэрбродам з каўбасой і малаком. Любімая страва? Магу з раніцы да вечара есці катлеты.

***— Прабачце, але што за прыгожы пярсцёнак вы носіце?***

— Гэта падарунак шаха Ірана. Я ў свой час быў госцем ягонай каранацыі. Мяне запрасіла туды шахіня, якая была на маім канцэрце ў Баку. Я быў першым савецкім чалавекам, які пабываў у палацы шаха. Нават Касыгіна, не гаворачы пра іншых дыпламатаў, у Іране прымалі ў вялікім доме за горадам. А таму супрацоўнікі савецкага пасольства выпытвалі ў мяне нават падрабязнасці пра мэблю і дываны. Вось пасля каранацыі шах падарыў мне залатую шкатулку з каштоўнасцямі для жонкі і для мяне, а таксама вялікі і прыгожы дыван.

***— Вы не жадалі б пра сваё жыццё напісаць кнігу?***

— Нядаўна вельмі вядомае выдавецтва «Вагрыус» звярнулася да мяне з просьбай напісаць успаміны ў серыю «Маё XX стагоддзе». У гэтага выдавецтва прыстойная рэпутацыя, і я падумаў, што калі зараз не вазьмуся за гэтую справу, то тады ўжо ніколі. Зараз я працую над успамінамі, і працэнтаў на семдзесят кніга гатова.

Але ў сувязі з абвалам рубля і наступным абвалам газет, часопісаў і выдавецтваў я патэлефанаваў у «Вагрыус» і запытаўся, ці застаецца прапанова ў сіле. Мне адказалі, што нават няхай ўсё абваліцца, але мае ўспаміны будуць надрукаваны.

Павінен адразу сказаць, што ў сваёй кнізе я нікога не буду лаяць. Там не будуць названы імёны тых людзей, якія калісьці рабілі мне гадасці. Справа ў тым, што я прачытаў некалькі твораў маіх калег па мастацтву, і мне было агідна, калі чалавек пачынаў з таго, што ўсе, акрамя яго, бяздарнасць. На такім дрэнным вопыце трэба вучыцца, а далей, як гаворыцца, Бог дарye...

**Ілона ІВАНОВА.**
**Фота Ірыны САВОСІНАЙ.**

### *АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

## ВЯСЕЛЛЕ

Ідэя стварэння песні «Вяселле» належыць Уладзіміру Сарокіну. Гады тры таму кампазітар прапанаваў Алесю Бадаку напісаць тэкст для будучай песні пра вясельнае застолле, што неўзабаве было і зроблена. Аднак у час рэпетыцыі ансамбля «Сябры» ў Анатоля Ярмоленкі ўзніклі пытанні — і давялося перапісваць асобныя музычныя моманты і, адпаведна, мяняць тэкст. У апошнім варыянце ён згубіў крыху лірычнасці, але стаў лепш выяўляць вясёлы бяседны настрой.

Прэм'ера песні адбылася на Рэспубліканскім свяце «Дажынкі-97». Разам з «Сябрамі» ўдзельнічаў народны ансамбль «Церніца», які спяваў прыпеўкі. У такім артыстычным саставе новы вакальны твор быў прапанаваны гледачам у тэлепраграме «Песню бярыце з сабой».

**Міхась ШАВЫРКІН.**

*«Па прафесіі я — настаўніца музыкі і спеваў, таму мне вельмі даспадобы рубрыкі «Анталогія беларускай песні», «Прэм'ера песні», «Песні народаў Беларусі». Асабліва дапамагаюць яны мне пры падрыхтоўцы розных мерапрыемстваў і святаў, якія праходзяць у школе, таму што самі ведаеце, як цяжка зараз знайсці беларускі рэпертуар.*

*А ўвогуле я за тое, каб гэтыя музычныя рубрыкі выходзілі як мага часцей, бо яны нясуць людзям не толькі інфармацыю, але і, галоўнае, асалоду і задавальненне ад вывучанай песні.*

*Іна ПЯКАРСКАЯ, г. Маладзечна.*

*Па просьбе Іны Пякарскай для яе сяброў змяшчаем песню «Вяселле» Уладзіміра Сарокіна і Алеся Бадака. Рэдакцыя газеты «Звязда» разам з аўтарамі песні далучаецца да вясельных віншаванняў і жадае ўсім, хто пабраўся шлюбам, непарушнай любові, кахання і згоды.*




## ВЯСЕЛЛЕ

Музыка Уладзіміра САРОКІНА — Верш Алеся БАДАКА

Нам сёння ўсе радня,
Хто зойдзе ў хату.
Хай чаркі звіняць,
Сягоння — свята!
Тут хопіць месца ўсім.
Усю нядзелю,
Пакуль хапае сіл,
Гуляй, вяселле!
Пакуль хапае сіл,
Гуляй, гуляй, вяселле!
**Прыпеў:**
Спявайце госці, музыкі, грайце.
За маладых выпівайце да дна.
Няхай вяселле
У гэтай хаце
Не заціхае ўсю ноч давідна.

Віншуйце маладых.
Любві жадайце.
Хай будзе згода ў іх
І будзе шчасце.
Сядзяць, як галубкі,
Глядзяць нясмела.
І свет для іх такі,
Як вэлюм, белы.
І свет для іх такі,
Як вэлюм, белы, белы.
**Прыпеў.**

## КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталях:** 3. Галоўны персанаж аповесці Я. Коласа «Дрыгва». 8. Традыцыйная хатняя мэбля. 9. Паэма Аркадзя Куляшова. 10. Уводзіны ў твор. 13. Грашовая адзінка ў Германіі, Фінляндыі, некаторых іншых краінах. 15. Прыхільнік крайніх, рашучых поглядаў. 17. Астатак, здача. 18. Шаўковая тканіна з бліскучым правым бокам. 19. Вострая вяршыня гары. 20. Невялікі, часцей лісцевы лес. 21. Рыбалоўная снасць. 24. Аматар мастацтва, прыгожага, зграбнага. 26. Беларускі паэт, аўтар паэм «Галасы гарадоў», «Лявоніха» і інш. 28. Лёдавая глыба ў паўночных морах. 29. Ступень жыццядзейнасці арганізма. 32. Касцяк, аснова збудавання. 33. Прыбор для вызначэння напрамкаў свету. 34. Квадра Месяца.

**Па вертыкалях:** 1. Украінскі народны танец. 2. Паэма Максіма Танка. 4. Алюмініевая руда. 5. Беларускі паэт, перакладчык рамана В. Ажаева «Далёка ад Масквы». 6. Ярка-чырвоны, ружовы або белы камень. 7. Публічны ўрачысты абед або вячэра са званымі гасцямі. 11. Трапічная трысняговая расліна. 12. Паўсядзённае жыццё з традыцыйнымі правіламі, звычаямі. 13. Мінерал ярка-зялёнага колеру. 14. Старабеларуская манета-капейка. 16. Мужчына з цёмна-русымі валасамі. 22. Непрафесіянал у пэўнай справе. 23. Свабоднае жаночае паліто. 25. Нярадасны настрой, маркота. 26. Аўтар раманаў-эсэ «Янка Купала», «Ф. Скарына». 27. Устаноўленая норма, велічыня. 30. Чалавек, які адмаўляецца ад жыццёвых задавальненняў, вядзе празмерны строгі, замкнёны лад жыцця. 31. Памер заработнай платы.

**Склаў Уладзімір НЕСЦЯРОВІЧ.**
*г. Мінск.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.989. Індэкс 63850.
Зак. № 6627.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12